# Дзядзька Лявонь

**/СТАНІСЛАЎ ВАГУРКА/**

# Фельетоны

ВЫДАВЕЦТВА ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ
БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА
ТАВАРЫСТВА
БЕЛАСТОК 1961

Рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

## СЕМЯЧКІ
### (Замест прадмовы)

Чытачы сімпатычныя (каб вы жылі вечна), дазвольце вас спытаць, ці знаёмы вы з семячкамі?

Лузаць семачкі — то вы ахвотнікі вялікія, але падсмажыць іх — не кожны з вас здатны.

Барані вас Багародзіца ад падсмажвання семячак на скавародзе. Ніякі цудатворац вам не паможа, падгараць семячкі ды і толькі.

У кухарскіх кніжках няма ўказанняў, як смажыць семячкі. А калі вы зварнецеся да шэфа — кухара, той пачне разводзіцца над фісташкамі, каб скрыць сваё невуцтва па семячнай вытворчасці.

Спецыялісткамі па семячках былі нашы бабулькі, якія ля падваротні прадавалі семачкі на шклянкі.

Цяпер для падобнай таргоўлі неабходна мець патэнт, канцэсію, трэба таксама зложыць дэкларацыю аб падаходным падатку, заплаціць за месца і ў канторы вагаў і мерак паставіць кляймо на шклянцы. Такіх выдаткаў ніякая семячка не вытрымае, таму і пераяліся бабулькі з семячкамі.

Сырыя семячкі трэба высыпаць на бляху, спрыснуць салёнаю вадою і ўсунуць бляху ў нашу беларускую печ. Калі шалупінне стане медна-бронзавым і семячкі пачнуць патрэскі-

ваць, вымайце бляху з печы і пакіньце ае на прыпечку, хай семячкі астынуць.

Ад такіх падсмажаных семячак чалавек не адарвецца, лускаючы іх будзе выплёўваць шалупінне бы лушчарка.

Ёсць у нас і іншыя семячкі. Часам гаспадыня купіць у магазіне насенне цукровай морквы, напрацуецца ў гародзе, спрыскае градкі кроплямі поту, а потым, капаючы моркву, лаецца гаспадынька ўздоўж і ўпоперак. Морква вырасла кармавая з доўгімі хвосцікамі.

У гэтай кніжцы нічога падобнага няма. Тут кожная літара ўзышла, усё вырасла і чытач (хай будуць яго дні нязлічаны!) бачыць тавар, выбіраючы што каму па душы .

Але, папярэджваю, апавяданні ўзяты з нашага жыцця і ніякіх ісцін накшталт «няма Алаха апрача Алаха і Магамета — прарока яго» перад чытачамі не адкрываюць.

Калі вы, людзі мілыя (хай бароніць вас Алах!), не маеце вольнага часу, не адкрывайце гэтай кніжачкі. Кароценькія апавяданні, бы семячкі, адцягнуць вас ад вашых заняткаў. Цікавасць штурхне прачытаць адно апавяданне, а потым спакусіцеся даведацца аб чым гутарка ў наступным.

Калі чытач над некаторымі старонкамі ўсміхнецца, у гэтым аўтар (хай адпусцяцца яму грахі цяжкія) не вінаваты.

У нашым народзе скрываецца невычэрпная крыніца гумару. Аб гэтым сведчыць аддзел «Самаабслугоўванне» у «Ніве». Таму самае важнае, з якім гумарам чытач бярэцца за кніжку.

Зразумела, калі чалавек вырашыў павесіцца, або аддаць стары доўг — ніякі гумар такому не паможа.

Прыемнага чытання, людзі добрыя!

## ЗА ГРАХІ ПРАШЧУРАЎ

Не буду ў вас забіраць час, дарагія чытачы, і не стану расказваць, як Усявышні дашоў да свайго вынаходства і з нічога зрабіў зямлю.

Распачну ад таго, як Адам прачнуўся ў раю і ўбачыў каля сябе незнаёмае, даўгавалосае стварэнне. Калі прашло першае ўражанне, ён асцярожна дакрануўся пальцам да грудзей незнаёмай. Адчуўшы пад пальцам атласную далікатнасць і прыемную цеплыню, ён пляснуў языкам з задавальнення.

Потым схапіўся, прыкрыў далонню шыю (бо быў без гальштука), пакланіўся ў пояс і прадставіўся. У сваю чаргу даведаўся, што даўгавалосая завецца Евай.

У раю не было ніводнай саперніцы, і Ева была шчаслівая, як ніякая жанчына на зямлі.

Ёй не даводзілася марнаваць часу на праседжванне ў касметычных кабінетах, не мучылася ў цырульніка пад гарачым каўпаком і не выбірала фасонаў сукенак у краўчых. Фарсіла ў тым, чым Бог надзяліў, і прыкмеціла, што Адаму гэта надзвычай падабаецца.

Аднак хутка Адам пераканаўся, што Ева — стварэнне капрызнае, фанабэрыстае, патрабавальнае, крыклівае і пры найменшым непаразуменні пускае ваду з вачэй.

Каб пазбегнуць сырасці і не набрацца рэўматызму, Адам ва ўсім уступаў Еве.

У той фатальны дзень, калі Ева зацягнула Адама пад забароненую яблыню, Усявышні, як на грэх, быў у службовай камандзіроўцы. Хоць яблыкі былі непрынадныя, маленькія, адным словам — райскія яблычкі, але ўсё ж такі Еве ўдалося спакусіць Адама. Вядома, Ева не ведала, што ў садзе зроблен перападлік і ўсе яблычкі на ўліку. Вярнуўшыся, Усявышні ўбачыў пад дрэвам агрызкі яблык. Ён хутка знашоў непаслухмяных злачынцаў і без двухтыднёвага папярэджання прагнаў іх з раю.

Гэты ўчынак можна было б назваць бяздушным, аднак неабходна ўзяць пад увагу тое, што тады невядомай была дактрына «чалавек — самае каштоўнае на свеце».

На зямлі Адама і Еву ахапіла пачуццё сораму, таму пэўныя месцы свайго цела яны прыкрылі фігавым лісцём з моднымі ўзорамі.

Выгнаннікі ўспомнілі словы «у поце твару будзеш есць хлеб свой» і вышлі шукаць пякарню. Не знашоўшы яе, пачалі сілкавацца ўсялякай раслінная дробяззю.

З часам бусел прынёс ім двух сыноў — Каіна і Авеля. Калі дзеці падраслі, падужалі, Каін выпусціў дух з Авеля. За свой хуліганскі ўчынак ён быў не пакараны, таму што ў той час не было крымінальнага кадэкса.

У выніку, з калена Каіна вываліся нашы начальнікі ПКС-аў, якія сёння выпускаюць з нас дух у аўтобусах. Залатыя потам мы ездзім у іх.

Усявышні бачыць гэта, аднак за грахі прашчураў нашых не ўмешваецца ў аўтобусныя парадкі.

## ВЫЛУПІЛАСЯ

Да чаго смешныя забабонныя людзі! Прышоў я аднойчы ў Калінаўку. Уваходжу ў крайнюю хату, каб вады напіцца, а гаспадыня кажа:

— Ой дзядзька, дрэнна гэты год закончыцца.

— Чаму?— пытаю.— Бараметр так паказвае?

А яна мне шэпча:

— У гэтым годзе буслы зусім не вылупліваліся.

— Вось яно як! Гэта яны аборты рабілі, ці што?

— Не! Не вылупліваліся таму, што год нешчаслівы. Яны лепш за людзей прадчуваюць, — растлумачыла гаспадыня.

— Грамадзяначка, я ж быў тут у жніўні, колькі маладых буслоў было, яны так і хадзілі па балоце ды за жабамі сачылі.

Гаспадыня замахала на мяне рукамі:

— Ды гэта не нашы буслы!

— У такім выпадку гэты год дрэнна закончыцца ў Калінаўцы, але ў Сафіяўцы будзе шчаслівы, — адказаў я і падзякаваў за ваду. Яшчэ параіў, каб гэткай страшэннай навіны нікому не расказвала, і пашоў далей.

Іду праз вёску, бачу, ля калодзежа бабулькі пасходзіліся. Падыходжу бліжэй і чую:

— У Гайнаўцы каля малачарні цётка Палашка жыве — выдатная варажыха. Яна ўсё мінулае і будучае ведае. Старшыні грамадскай рады ў

Нараўцы сказала, што цемру начную, якая там заўсёды існуе, нішто не асветліць.

Зацікавіла мяне гэтая варажыха. Дабраўшыся да Гайнаўкі, я адразу адшукаў цётку Палашку і загадаў паваражыць.

Варажыха оказала, што каб выварaжыць будучыню, трэба мець кафейную гушчу. Яна папрасіла, каб я прынёс фунт сапраўднай кавы, бо на дрэннай каве добрую будучыню немагчыма прадбачыць.

Прынёс я каву. Варажыха вышла ў кухню, пакруцілася, а потым гушчу выносіць. Пацягнуў я носам, чую, спаленым ячменем пахне.

— Кінь ў гушчу бліскучую манету, — просіць варажыха.

Кінуў я 10 грошай, а яна выцягнула іх з гушчы ды звяртае, кажучы:

— Не такую кідай, а залаценькую, бо сапраўдную будучыню толькі на шчырым золаце ўбачыць можна.

Распароў я пінжак, выняў царскую пяцірублёўку, кінуў ў гушчу, а варажыха гаворыць:

— Сур'ёзны з цябе чалавек, дзядзька, гэткім да смерці застанешся. Валасы ў цябе пасівелі, а сэрца маладое. Вялікіх рэчаў даб'ешся, калі благімі справамі перастанеш займацца.

І, уявіце сабе, у гэты момант уваходзіць нейкая жанчына. Шкада мне было таго, што варажысе перабілі, будучыні не выварaжыла, ды з другога боку стала так сорамна, што гатоў скрозь зямлю праваліцца.

Схапіў я сваю гушчу ды вышнаў. Але манеты ў ёй ўжо не было. Справа вылупілася.

## СЕЛЬГАСКОСМАС

У гэты дзень наш сялянскі клуб не змяшчаў усіх, хто жадаў паслухаць даклад нашага актывіста Кастуся на тэму: «Заданні сельскай гаспадаркa ў перыяд заваявання космаса». У залу нашло людзей, што блысе не праціснуцца.

Кастусь прыняў тэатральны выгляд і прыступіў да аправы, звяртаючыся да прысутных:

— Грамадзяне, жанатыя і нежанатыя! Вучыцеся вы ў сельскагаспадарчых гуртках, працуеце над самаадукацыяй, пацееце над ураджаем і ўсё дарэмна. Сёння ўвага звяртаецца не на ўраджай, а на Месяц, дзе ў хуткім часе людзі з'явяцца. На міжпланетных дарогах рух ажыўляецца. Сельскагаспадарчыя прадукты стануць карыстацца попытам на ўсіх планетах. Пара нам падумаць аб устанаўленні таргoвых дзён на Месяцы і ўсялякіх венерах, дзе ніхто цэн збіваць не будзе. А яшчэ лепш — арганізаваць сельскагасвытворчасць у космасе. Там надзвычай спрыяльныя ўмовы для нашай працы. Засухі няма патрэбы баяцца — у космасе Вадалей дзейнічае.

Глядзіце на карту неба. Бачыце Пегаса? Гэта конь так завецца. А ёсць там і Малы Конь, панашаму — жарабя. Значыць, цягавая сіла на месцы. Далей з боку Баран прымацаваўся, за ім Казярог уладзіўся, нават Бык таксама ёсць. Значыць, жывы інвентар поўнасцю ў парадку. Дрэнна толькі, што каровы тут няма. Але мы абавязаны прыдумаць, як карову да Быка падцягнуць.

Ёсць планеты з страшнымі назвамі — Дракон або Скарпіён — гэта запаветныя месцы для самагоншчыкаў. Ніхто іх там не патрывожыць.

Нашы вучоныя не займаюцца пытаннем сельскай гаспадаркі ў космасе і гэтая справа ляжыць у нас на сумленні, — закончыў Кастусь.

Першым папрасіў слова васьмідзесяцігадовы дзед Максім:

— Грамадзяне аднаасобнікі і калектыўнікі. Для нашай вёскі лётаць у аблаках — не навіна. Шэсцьдзесят год таму назад абмяркоўвалася ў нас гэтая справа. Наша Аксіння, вечны пакой, на мятле ўласнай канструкцыі начамі да ўрадніка лётала. Волі тады не было і ўраднік гайкай па лобе біў тых, хто ляпаў аб Аксінні і начных палётах. Зараз іншы час настаў. Людзі лётаюць не да ўрадніка, а дзесьці далей — на Месяц і ніхто не праследуе лятуноў. Усёй грамадой падумаць, дык і карова матылькoм паляціць.

Пасля прамовы дзеда Максіма разгарнулася гарачая спрэчка.

Хтосьці запрапанаваў прычапіць прапелер да каровы, але нехта запярэчыў. Маўляў, каровін хвост заблытаецца ў лопасцях прапелера. Некаторыя прапанавалі прывязаць карову за рогі да ракеты, але іншыя даказвалі:

— Вецер можа дзьмуць у каровін зад з такой сілай, што рогі выпрастаюцца і карова сарвецца.

У самы гарачы момант увашоў старшыня грамадскай рады і гукнуў:

— Ці вы, грамадзяне, з глузду з'ехалі, ці з Месяца зваліліся! Каровы ў хлявах мычаць, свінні ад рохкання пахрыплі, жывёла хоча пойла, а вы языкі параспускалі. З нашай вёскі ніхто нікуды не паляціць, пакуль не выканае сваіх абавязкаў. Аб гэтым папярэджваю і да пабачэння.

Старшыня вышаў. Прысутныя таксама пачалі выходзіць.

Які жаль! Наша вёска магла б стаць на першае месца па сельгаскасмічнаму пытанню, калі б старшыня не перашкодзіў самадзейнасці грамадзян.

## ЗНАХОДКА

Як мала трэба чалавеку, каб стаць вядомым. Аб Сцяпану цяпер ўся вёска гаворыць, а яшчэ нядаўна ад яго і казёл адварочваўся.

А сталася гэта так. Паехаў Сцяпан на кірмаш. Калі ўжо кірмаш набліжаўся да канца і трэба было вяртацца дамоў, вырашыў Сцяпан выпіць чвэртку, каб арганізм прадызінфікаваць. Вядома, сярод натоўпа людзей бацылы могуць прысутнічаць, а лепшага сродка, як спірт, супраць мікробаў няма.

Ідзе гэтак Сцяпан з санітарна-дызінфекцыйнай думкай, а тут бачыць, пад нагамі анучавы пакунак ляжыць. Таўкануць бы гэту анучу, каб заразы не набрацца. Але не, Сцяпан праз цікавасць падымае яе і глядзіць, што там. А там каляровыя паперкі! Сцяпан хутчэй засунуў скрутак за пазуху, каб, чаго добрага, уласнік згубы не трапіўся, і крочыць да буфета з лячэбнай вадкасцю.

У душы шчасліўца бэз расцвітае, а тут нейкі незнаёмы падсоўваецца і шэпча:

— Грошы знашоў...

— Нічога я не знашоў, — выціснуў з сябе Сцяпан і пачуў, як бэз у душы завяў.

Незнаёмы за рукаў Сцяпана цягне і прыгаварвае:

— У міліцыі разбярэмся... Пяць тысяч згублена... Аб гэтым увесь кірмаш гаворыць. Дай, брат, колькі не шкада і разыдземся па-добраму.

Бачыць Сцяпан, што ўжо і народ пачынае звяртаць на яго ўвагу. Выцягнуў з кішэні свае грошы і сунуў незнаёмаму.

— Няхай цябе певень заграбе, скупая душа, — узяўшы грошы сказаў незнаёмы і знік.

Сцяпан пра дызінфекцыю забыў, ускочыў ён на фурманку і паганяе каня, каб хутчэй у поле выбрацца.

Выехаўшы ў поле, выняў з-за пазухі скрутак і разварнуў яго. А там, замест стозлатовак, акуратна зложаны выразкі з газет. Толькі зверху дзве чырвоныя крэдыткі ляжаць, ды і тыя фальшывыя.

Дзякуючы гэтай гісторыі стаў Сцяпан вядомым чалавекам у акаліцы.

Эх, людзі мілыя, калі б ведаў чалавек, дзе ўпадзе, там бы і салому падаслаў.

## НЕПАРАЗУМЕННЕ

У старога Мацея былі дзве слабасці: дачка — дзябёлая дзеўка і паўрасавая кабыла.

У гэты дзень Мацей меў двух наведвальнікаў. Спачатку прышоў Панкрат. Ён адразу прыступіў да справы:

— Чуў, быццам прадаеш кабылу.

— Прадаю, дванаццаць кавалкаў дасі, будзе твая, — адказаў Мацей.

— Э... дванаццаць!.. — запярэчыў Панкрат. — Скуру дзярэш, Мацей. Вось у Аполі за восем кавалкаў каралеўскага рысака прадаюць. А ў Катавіцах і Бытомі нават забаронена ездзіць па горадзе коньмі. Цяпер трактар у модзе, а коні ідуць у адстаўку.

— А гной табе трактар дасць? — ядавіта спытаў Мацей. — А мо ты і на кірмаш трактарам паедзеш? Мая кабыла праз тры месяцы жарабя прывядзе. Заплаціш за аднаго каня, а купляеш, значыць, два.

— Апольскую цану дам, — сказаў Панкрат.

— Тады дуй у Аполе, там і купіш, — адказаў Мацей.

Панкрат пам'яў у руках шапку і пашоў.

Неўзабаве да Мацея прышоў Максім, сын млынара. Прывітаўся, сеў на акрайчыку лаўкі і нясмела пачаў:

— Дзядзьку Мацей, у вас тавар, а я купец, вырашыў зайсці, мо дагаворымся.

— Для сябе дагаворвацца прышоў, ці для бацькі? — спытаў Мацей.

— Для сябе... Маю чатыры гектары пад лесам... Кідаю млын!..

— Дрэнна, як дзеці сварку заводзяць з бацькамі.

— Я не сваруся, толькі не магу глядзець, як мачаха запрагла бацьку, нібы каня... Мо' дагаворымся, дзядзьку Мацей.

— Чаму не дагаворымся, дванаццаць кавалкаў дасі і хоць у гэтай хвіліне едзь ёю дахаты.

Максім пачырванеў і скромна заўважыў:

— Ездзіць на ёй я не збіраюся, жаночы пол пакрыўдзіш — век не забудзе...

Мацей не даў Максіму закончыць:

— Яна спакойная, — пачаў угаворваць, — зубы та ты бачыў?

— Бачыў, пазайздросціць можна.

— Эгэ, а ногі? Стройныя, моцныя, уся сіла ў гэтых нагах, хочаш пакажу, — запрапанаваў Мацей.

— Ну, навошта, ці я вам не веру, — адазваўся засаромлены Максім.

— А крыж які гладкі, да костачкі не дабярэшся, — працягваў Мацей. — Ну, а цана цвёрдая, як дзяржаўная, і сотні не ўступлю. Не адзін ужо адыходзіў па гэтай прычыне.

— То і іншыя прыходзілі? — нейкім дзіўным голасам спытаў Максім.

— А ты думаеш, што толькі ты аматар на яе? Яна ў мяне вядомая на ўсю аколіцу, ад Бельска да Гайнаўкі яе знаюць.

Максім неспакойна закруціўся на месцы, а Мацей працягваў далей:

— Да таго ж, за тры месяцы бясплатны дадатак табе падарыць — жарэбчыка будзеш мець... Ды што з табою? Збялеў цэлы, мо' жывот?! Папі вады, лягчэй будзе.

— Не трэба... Сем тысяч маю, рэшту ў бацькі пазычу, — выціснуў Максім.

— Мы людзі свае, хлопец ты салідны, можаш зараз жа браць кабылу.

У Максіма вочы вылезлі як у рака:

— Я... якая кабыла? Я ў сваты прышоў!

— Дурань! З гэтым ідзі да дачкі. Круціш мне балалайку з кабылай, а аб дачцы гутарка! — закрычаў Мацей.

Грамадзяне мілыя, ды ці ж мала ў нашым жыцці непаразуменняў бывае?

## ДАВЕР

На днях я лавіў рыбу ў Нарве. Бралася яна па-стаханаўску. Ледзь паспяваў чарвякі нанізваць.

Налавіўшы кілаграмчыкаў з восем, сабраў я вуды, высыпаў рыбу ў кошычак, ды іду ўздоўж ракі.

Раптам бачу — сядзіць на беразе чалавек, камень ў яго да шыі прывязаны, а па шчоках струменьчыкамі цякуць слёзы.

Кінуўся я да яго ды крычу:

— Спыніся! Што робіш?!

А ён безнадзейна махнуў рукою і здушаным голасам адказаў:

— Нічога не паможа.

— Паможа, усё зробім, — запэўніў я.

— Як паможаш? Тут плытка, я не змагу патануць, — запярэчыў ён.

— Чалавеча, навошта табе тапіцца, ты ж малады, — сказаў я, спадзяючыся выбіць яму з галавы думку аб самагубстве.

— Не магу жыць у атмасферы, у якой адсутнічае давер, — растлумачыў незнаёмы.

— Хто ж табе не давярае?

— Усе. Тытунёвы манаполь не верыць, што я сам умею рабіць папяросы. Прадаюць гатовыя. А тытуню і курыльнай паперы няма дзе купіць. Рыбны гандаль не верыць, што я ўмею марынаваць селядцы. Прадаюць гатовыя, марынаваныя ў бляшаначках. У барах не вераць, што я сам умею змяшаць смятану з кіслым малаком. І прадаюць ужо змешаную. Малочніцы не вераць, што я здолею сам развесці малако з вадою і прыносяць на рынак ужо разведзенае. Словам, няма выйсця. Канец.

Я зняў з яго шыі камень, кінуў у ваду і сказаў:

— Песімізм тут табе, малады чалавек, няма чаго разводзіць. У жыцці бываюць і шурпатасці, ну, але хутка ўсё ўладзіцца.

Ён паглядзеў на мяне даверлівымі падзіцячаму вачыма і прамовіў:

— Ты, дзядзька, кажаш так красамоўна і пераканаўча, бы дакладчык. Я табе веру.

## ДЗІРКА АД АБАРАНКА

Уявіце сабе, людзі добрыя, заходжу я ў краму ГС купіць абаранка і мне яго ў паперцы падаюць.

— Паненачка цудоўная, навошта паперка, я тут яго з'ем, — кажу прадаўшчыцы.

А яна мне адказвае:

— Ешце наздароўе, толькі трымайце абаранак у паперы, бо мо' рукі ў вас запылены і, чаго добрага, бактэрыі перанясуцца з іх на абаранак, а ў паперы больш гігіенічна.

Здзівілі мяне гэтыя словы. Жую абаранак і разглядаюся па краме. Бачу — стаяць малыя бочачкі.

— Што гэта за бочачкі? — пытаю з цікавасці.

— Гэта селядцы, — чую адказ. — У каго сям'я невялікая, той бярэ бочачку пяцікілаграмовую, у каго большая — васьмікілаграмовую. Сялянам ад гэтага выгода вялікая. У бочках селядцы могуць доўга ляжаць — у сваім расоле не псуюцца. У любы момант можна бульбы наварыць, цыбулі накрышыць, селядца ачысціць і царская яда гатова.

— Сапраўды, вельмі выгадна, — згадзіўся я, пераржоўваючы абаранак.

А прадаўшчыца горда глядзіць на мяне і гаворыць:

— Гэта яшчэ не ўсё, а вось цукар мы прадаем у пергаментных торбачках. Нават у дажджлівую пагоду людзі яго сухім дамоў прыносяць. Ёсць ў нас соль для жывёлы і для кухні.

Прадаўшчыца паказала пальцам на белюсенькую, бы зубны парашок, соль і тлумачыла далей:

— Наша крама абслугоўвае пяць вёсак. Маем каня і закрытую платформу. Ёй мы возім па вёсках прадукты першай патрэбы. У час палявых работ людзі не патрабуюць бегаць да нас за 3, а то і 5 кіламетраў, атрымліваюць тавар на месцы.

Ад гэтых слоў я ледзь абаранкам не задавіўся.

Падумаць толькі, які велізарны паварот да лепшага з боку вясковага гандлю!

Толькі з адной справай тут дрэнна. Менавіта з тым, што я на пачатку фельетона прапанаваў чытачам уявіць ўсё гэта, таму што ў сапраўднасці крамы ГС працуюць так, як гэта мы, дарагія чытачы, у сябе бачым.

Выходзіць, што з гэтай справы, пакуль што, атрымліваецца толькі дзірка ад абаранка.

## НАВАГОДНЯЯ СУСТРЭЧА

Майму прыяцелю ўдалося нейк скамбінаваць (па блату) білецік на навагодні баль-маскарад. Жонцы схлусіў ён, што быццам усю ноч будзе перападлік рабіць у магазіне (як заўсёды перад новым годам). Цёшчу ветліва ў ручку пацалаваў, дзеткам святочным капялюшом памахаў і сарваўся мой сябра з хаты, быццам той цюцька з ланцуга.

Баль быў у разгары. Музыканты аж надрываліся. Серпентын танцуючых вясёлкай акружаў залу. Тут нечакана прыяцелю зацерушыла вока адна андалузачка. Увашла яна ў залу самастойна, без кавалера. У разрэзах яе масачкі вочы звёздамі гараць. Чорная сукенка шчыльна аблягла фігурку. А фігурка такая, што... Эх, трымайце мяне, браткі родныя.

Прыяцель мой падкраўся да гэтай андалузачкі, як кот да смятаны, і зачырыкаў ёй па-салаўінаму:

— Прабачце, калі ласка, па-іспанску я ні «бэ ні мэ», аднак зайздрошчу іспанцам, што ў іх такія прыгажуні водзяцца.

Андалузачка зубкі скаліць, ды прапануе адразу:

— Мо' ў буфет пойдзем?

Вядома, прыяцель мой з ахвотай пацягнуўся ў буфет. Ён хутка асядлаў столік у цёмным куточку і збіраўся ўжо два бутэрброды заказаць, але андалузачка натурыцца, ёй віна і піrожнага хочацца.

П'юць яны віно, пірожным закусваюць, а прыяцель мой дзівіцца, што галава яго кружыцца пачынае. Віно ж слабое. А тут андалузачка ногу за ногу залажыла, ды так, што не толькі закрытае тоненькім нейлонам яе кругленькае каленца відаць, але і далей...

Прыяцель мой пачуў, як гэтае каленца ўпоперак яго горла залягло і дрыжачым голасам кажа ён сваёй даме:

— Мілая грамадзяначка іспанскай нацыянальнасці, дазвольце быць вашым трубадурам.

А яна яму ўсміхаючыся, адказвае:

— Ох, вы свавольнік. У хаце мо' жонка з дзяцьмі чакае, а вы тут мне амура строіце.

Прыяцель апраўдваецца:

— Забажыцца магу — жонкі не маю. З дзеда прадзеда халасцяком па божым свеце хаджу. Дазвольце ж пальчык пацалаваць. (Цалуе пальчык і далей шчабеча) — Калі б яшчэ вас у іспанскія губкі пацалаваць, дык і паміраць не шкада было б грэшнаму.

І падумайце толькі, людзі добрыя, цалуе, гіцаль, губкі андалузачкі. А тут шум падняўся. Гадзіннік дванаццаць б'е. Прысутныя тосты выкрыкваюць, маскі здымаюць. Андалузачка таксама маску сарвала і... прыяцель мой ад жаху на крэсла асунуўся.

Перад ім стаяла ўжо не какетлівая андалузачка, а яго ўласная жонка.

— Ах, ты стары падла! — зацягнула яна вельмі знаёмую прыяцелю песню. — Я табе зараз так заандалужу, што ў тваіх бессаромных вачах іспанскія звёзды заскачуць!

Карацей кажучы, вельмі непрыемна перападлік у майго таварыша вышаў.

Аказваецца, нельга ашукваць жонак. Лёгкая хлусня неаднойчы цяжкім каменем на сэрца ляжа.

## САПРАЎДНАЯ КАЗКА

Раз, два, тры, чатыры, пяць, вышаў зайчык пагуляць. Раптам лісіца выбягае і хітрым голасам зайчыка пытае:

— Куды спяшаеш, даражэнькі? Мо' на прагулку выбраўся?

У зайчыка са страху душа апынулася ў кароценькім яго хвосціку. Крывячы мордачку ён, заікаючыся, праляпятаў:

— Па-а-дыхаць свежым па-а-ветрам збіраюся.

— Вось як! Другія зайкі ў школе пацеюць, а ты, гіцаль, без ведама маці - зайчыхі і бабра - настаўніка ў гультаі сабраўся. Паветра свежага захацелася, — дакарала ліса, неўпрыкметку набліжаючыся да парушыцеля дысцыпліны.

Прадчуваючы бяду, зайка перакульнуўся і апынуўшыся ў густым зарасніку — замер.

Доўга ён так праляжаў без духу, ды вельмі шкадаваў, што не пашоў у школу. Пасля, выплакаўшыся ўдосталь, устаў і, апусціўшы вушы, паплёўся дахаты. За кожным карчом, здавалася зайку, таілася лісіца. Сэрца яго замірала і таму нічога дзіўнага, што ён у разгубленасці наступіў на старога крата.

— Інвалідаў не шануеце, на лясных дарожках хуліганіце! — запішчаў крот.

Зайчык шарахнуўся ў бок і апынуўся перад раздзяўленай пашчай ваўка.

На Зайкава шчасце воўк быў сыты як мяснік. Але ўсё ж па-воўчаму звычаі выскаліў зубы ды завыў:

— Што ж ты, няпоўналетні грамадзянін, разбоем займаешся?! Сляпога старэчу Крата Кратовіча крыўдзіш!

Перапалоханы зайка прысеў на заднія лапкі і прашаптаў ледзь чутным галаском:

— Прабачце вялікадушна. Ад лісіцы ратуюся.

— Хлусіш, каплавухі! Лісіца ж вегетарыянкай стала. На сам успамін аб мясе млосна ёй робіцца. Сама аб гэтым мне гаварыла.

Захапіўшыся сваім красамоўствам, воўк і не заўважыў як зайка знік.

Чытачы пацікавіцца могуць дзеля чаго апісаў я гэтую гісторыю.

Людзі добрыя, ды папросту. Сустрэў я школьніка, уцекшага са школьных заняткаў. Адчуваў ён сябе зусім па-заячы, а старэйшыя грамадзяне абыякава праходзілі побач.

Кожны апушчаны дзень у школе вельмі спатрэбіўся б на экзаменах, але не вярнуць яго з прычыны заячай легкадумнасці.

## РАДЫЁАКЕНЦА

Як сабе хочаце, дарагія чытачы, але радыё — рэч нецікавая. Інакш кажучы, радыёапарат — дробязная вынаходка.

Напрыклад, слухаеце радыёперадачу: гавораць аб Францыі, Індыі і далёкіх гарадах, дзе што адбывалася, а пра нашу вёску ані слова. А мяне больш цікавіць жаніцьба Максіма — млынара, чым шлюб персідскага шаха. Таму што жаніцьба Максіма адбываецца ў нашай вёсцы, а шах сядзіць за сям'ю гарамі. З жонкай Максіма будзем сустракацца штодзень і мо' давядзецца на хрысцінах чарку кульнуць, а з шахавай бабай нават на кірмашы не сустрэнешся.

Дзеля таго я свой радыёапарат у хлеў вынес, няхай яго каровы слухаюць. А сам адчыніў акно і любуюся.

За акном птушкі на ўсялякія галасы заводзяць, пеўні пяюць. Адным словам, гукавых эфектаў больш, чым у радыё.

У суседзяў таксама акно адчыняецца, і адразу гукаў дабавілася. Голас у суседкі высокі — сапрана. У суседа бас.

— Замест у поле — рыбу вудзіш! З Міхася прыклад бярэш! А ён жыве па-дурному. Ажаніўся з Маланкай па-п'янаму. А яна нядбайніца. У яе ў хаце даўно ўжо чарвякі завяліся, — дакарала сапрана.

— Вось, менавіта! — гудзе бас. — Рыбаку чарвякі перш за ўсё.

І скажыце, людцы ветлівыя, якое радыё паведаміла б, што ў Маланкі чарвякі ў хаце.

— Карова хворая, — працягвае сапрана, — схадзіў бы за доктарам, а то, чаго добрага, да бяды недалёка.

— Сходзіш сама, невялікая пані,— адгрызаецца бас.

— Каб ты праваліўся! — крычыць сапрана. — Бегаю штодзень з языком на барадзе малако здаваць. Дык хоць падатак занясі, князь рыбаковы!

— Яшчэ чаго! — асаджвае бас. — Грошы аддаць заўсёды паспееш, сёння ідзем самоў на перамёт лавіць.

— Антыхрыст няхрышчаны! — абураецца сапрана. — А я зноў сама застаюся на гаспадарцы! Цьфу на тваю голаў!

— Чаго плюеш, бацылы распускаеш, — уціхамірвае бас, — сом — усім рыбам рыба. Табе лаўлю, дурная!

— А на рыбах гарэлкай заліваешся таксама для мяне? — не здаецца сапрана. — Думаеш, не ведаю, што Дзмітрысе за пяць літраў не заплаціў, ідал ракавы! Жыццё маё згубіў, а цяпер гаспадарку на вецер пускаеш...

Людзі мае, ды якое ж радыё падало б, што Дзмітрыха самагонку ў крэдыт адпускае.

Цяпер бас падняў свой голас:

— Хто тут у хаце гаспадарыць!

Тут сусед ударыў кулаком у стол, што аж пасуда зазвінела. Услед за тым пачуліся глухія ўдары мятлы.

— На, табе, на, табе, на, табе!.. — прыгаварвала сапрана.

— Ашалела, Манечка, я ж толькі спытаў, хто тут гаспадарыць. Выходзіць, што і пацікавіцца нельга, — жаласліва разводзіў бас.

Тут акно зачынілася і ранішняя перадача закончылася.

Эх, людзі! Часта забываем пра адчыненыя вокны, а пасля здзіўляемся, адкуль нашы справы ўсёй вёсцы вядомы.

## АЛІМПІЯДА

Ох, і захапляліся грамадзяне Рымскай алімпіядай! Некаторыя праз увесь час гульняў зусім не адыходзілі ад радыёпрыёмнікаў. Калі дыктар ломаным ад хвалявання голасам падаваў весткі аб здабыцці медаляў нашымі спартсменамі, больш гарачыя балельшчыкі перажывалі жоўтую ліхаманку, быццам яны спадзяваліся пабачыць гэты медаль на сваіх уласных грудзях.

— Дзе Крым, а дзе Рым — гаворыць прыказка. Вельмі ж далёка наладзілі тую алімпіяду. Таму жыхары нашай вёскі, каб прыблізіць да шырокіх мас зацікаўленне спортам, цвёрда вырашылі, ні больш ні менш, толькі ўласную, вясковую алімпіяду наладзіць. Каб адпаведна падрыхтаваць спартсменаў да алімпійскіх гульняў, яны запрасілі спецыялістаў — трэнераў.

Трэнерам па гонках назначылі Трахіма, вясковага прыгажуна, якога два гады гоніць, ды даганіць не можа каморнік, каб сцягнуць аліменты.

Задзёра Антон згадзіўся быць інструктарам па боксу. Аднойчы на вясковай вечарынцы ён сам адзін (калі не лічыць дапамогі гарэлкі) накаўтаваў аж паўтузіна спакойных хлопцаў, за што 3 гады прасядзеў у турме.

Трэнерам па скаканню выбрана рахункавода Мірона. Сёлета Мірон на трэцюю пасаду пераскочыў і ўжо намераны на чацвёртую скакаць.

Інструктарам на плаванню назначылі Андрэя, кухара нашай гасподы. Кухар пяць гадоў плавае паміж кухоннымі справамі. У час кожнай кантрольнай інспекцыі здаецца вось, вось, утопяць кухара. А ён вынырне, страпянецца і зноў сабе плавае.

Цяжкую атлетыку ўзяў на свае плечы Міхась, кладаўшчык вугальнага склада ГС. Гэты Міхась на сваіх уласных плячах вынес са склада 10 тон вугалю, ды так спрытна, што ніхто не ўбачыў.

Трэнерам па гімнастыцы аднагалосна выбрана цыбатую Марусю, якая ўжо 3 гады гімнастыкуецца ў 7 класе і падае надзеі надалей застацца ў пачатковай школе.

Як бачыце, мілыя чытачы, спецыялістаў па спорце ў нас хапае. І алімпіяда ўдалася б, калі б не старшыня грамадскай рады.

Пераглядзеў наш старшыня спіс трэнераў, ды кажа:

— Дазволу на спартыўныя спаборніцтвы не дам, таму што трэнеры слаба кваліфікаваныя.

Як вам падабаецца гэта, людзі добрыя?

Выходзіць — Рымская алімпіяда толькі таму ўдалася, што там і са свечкай не знойдзеш старшыні грамадскай рады.

## СЛЯПОЕ ШЧАСЦЕ

Спартсмены бываюць розныя. Адны бегаюць, пакуль не набегаюцца, другія скачуць, пакуль іх хто не пераскача. Але балельшчыкі заўсёды аднолькавыя.

Гэта яны крычаць ды свішчуць на стадыёнах, на памяць ведаюць усе рэкорды і ўжо акрэслілі, хто першым будзе ў гэтым годзе на фінішу велагонкі Варшава — Берлін — Прага.

Я жыву ў згодзе з часам і таксама люблю спорт, больш — лічу сябе спартсменам. Толькі займаюся я спортам сідзячым, інакш кажучы, спортам без руху.

Па сакрэту скажу вам, што я стала ўдзельнічаю ў спартыўных гульнях «Тота». Ды памяркуйце самі, дарагія грамадзяне, людзі выгрываюць па сто тысяч і больш. Нават за адну памылку плацяць па 39 тысяч. Па-мойму «Тота» з'яўляецца адзінай установай, дзе плацяць за памылкі, і, да таго, так дорага.

Чаго там утойваць, у «Тота» гуляе ўся Гайнаўка, палавіна беластачан і амаль ўся краіна.

Ну, хіба самі разумееце, як гэта прыемна выграць. Сядзіць сабе чалавек у хаце, а тут прыносіць пісьманосец паведамленне з ПКО, у якім вас вельмі просяць прыйсці і атрымаць сто тысяч злоты.

Уяўляеце сабе, што тады робіцца ў хаце? Садом і Гамора! Жонка пачынае вас зноў любіць, як 10 год таму назад, дзеці глядзяць на вас, бы на рымскага папу, а вы, выставіўшы наперад грудзі, напяваеце:

«Тота», як добра мне, што ты такое,<br>
«Тота», як добра нам на свеце жыць!<br>
«Тота», маё ты «Тота» залатое,<br>
Дзякую «Тота», што ты ўмееш так плаціць.

Нядаўна выслаў я свае звычайныя дзесяць купонаў і сяджу, папалуднаўшы, ды ў «Спорце» рубрыку «Тота» вывучаю. Раптам, трымайце мяне людзі добрыя, трымайце бо схаплюся! 713 473! Гэта ж мой нумар! Чакаю тады пісьманосца і дачакацца не магу. На другі дзень ідзе ён, ветлівы і любімы. Адкрываю хутчэй брамку і гатоў расцалаваць яго, але ад хвалявання толькі прамовіў:

— Вельмі ж ўжо напакутаваўся, чакаючы вас.

А ён заходзіць на панадворак, вымае з торбы канверт ПКО і пытае:

— Грамадзянін Казалупа тут жыве?

Халодны лёд пакрыў маё цела. «Каб ты праваліўся, паршывец!» — падумаў я і адказаў:

— Уласна кажучы... гэта... гэта па-суседску.

Алесь Казалупа, як звычайна, быў «пад мухай», але падпісацца яшчэ здолеў. Раздзёр ён канверт, а там паведамленне аб ўплаце на яго імя 28 950 злоты за купон 713 478 (аказалася, што ў газеце была памылка).

Алесь пачухаў патыліцу, ды кажа:

— Пабіце мяне пірагамі, не прыпамінаю, што я там па-п'янаму панапісваў, а вось цвярозыя толькі адну памылку знашлі.

Шчасце — яно ж сляпое.

## ПАРАДЫ САМАГОНШЧЫКАМ

Саматужніцтва перамяшала людзям розум. Усялякія індывідуалісты паасобку вырабам самагонкі займаюцца. Адны, на здзіўленне кароў, у хляве апараты ставяць, больш асцярожныя — у лесе пад корчыкам уладжваюцца.

Каб у нас за гэтую справу з галавою браліся, вялікія магчымасці перад намі адкрыліся б. Чаму, напрыклад, не арганізаваць самагоначны вытворчы кааператыў? Ці цяжка для гэтакай ідэі мабілізаваць членаў?

Маючы шырокую падтрымку ў масах, дастасоўваючы навейшыя дасягненні тэхнікі, маглі б мы, браткі, раскруціць справу на зайздрасць ўсім індывідуальным саматужнікам.

Як я ўяўляю такі кааператыў? Самагоначныя апараты канструкцыі «Шаротка» можна было б абсталяваць у шпакоўнях. У дуплах схаваць літроўкі, да іх са шпакоўняў правесці пад карою гумовыя трубкі, і першачок пачне капаць на карысць працоўнай арцелі.

Зразумела, што за прадукцыяй будзе сачыць тэхнічны кантроль, каб брака не выпусціць.

Чаму, скажаце, менавіта ў шпакоўнях трэба змяшчаць нашае прадпрыемства? А вось чаму. Людзі шпачынай мовы не разумеюць, не данясуць. Хай сабе шпак галосіць на ўвесь свет «ф'ю — тут, ф'ю — тут», ніхто на гэта не зверне ўвагі.

Самагоначны каапературыў мог бы і заатэхніка ўзяць на штат. Заатэхнікі — людзі вучоныя, ведаюць чым кароў карміць, каб удоі малака падвоіць. Глядзіш, падыдуць яны да самагонкі з навуковага пункту гледжання, дастасуюць адпаведна закваску да корму, і з цыцак пацячэ гатовая самагоначка.

Дарэчы, жанчын нельга прымаць у арцель. Яны хоць і раўнапраўныя, але не сакрэтныя. І заўсёды абураюцца, калі працавіты чалавек лішнюю шкляначку кульне.

А калі ўжо кааперэтыў праваліцца, члены яго ўсю віну могуць зваліць на праўленне. І судзіць будуць не членаў, а начальства.

Дрэнна, што людзі ў нас да калектыўнай працы неахвотна ставяцца і паасобку ганяюцца за дасягненнямі. Гэта і перашкаджае развіццю самагоначнай індустрыі.

Цяпер саматужніцтвам далёка не заедзеш. Таму, калі не ўдаецца паставіць самагоначнай справы на ўзроўні сучаснай тэхнікі, дык лепш гэтым не займацца. У іншым выпадку, людцы добрыя, мы загубім і гэтыя слабыя кадры самагоншчыкаў, якія, пакуль што, дыхаюць свежым паветрам.

## ЛІХТАРЫ

Цёмна ноччу на вясковых вуліцах. У павятовых мястэчках хоць дзе-ні-дзе ліхтаровыя слупы тырчаць, але над вёскамі толькі адзін ліхтар свеціць — той, якога Усявышні павесіў ў час стварэння свету.

Праўда, гэты старажытны ліхтар мае шмат супольнага з нашай электрастанцыяй. Часам свеціць толькі рагатай палавінай. Значыць, і на небе ёсць барацьба за эканомію святловай энергіі.

Мабыць прыдзе час, калі ў вёсках не толькі над гээсамі будуць гарэць лямпачкі, а і на кожнай вуліцы.

Але пакуль што людзі свецяць сабе ўласнымі ліхтарамі. Асабліва п'яныя. Панастаўляюць ліхтароў — хто аб плот, хто аб дрэва, а то зноў дзеля сяброўскай сустрэчы — і свецяць імі ўдзень і ўночы.

Іншы раз і ў гарадах спатыкаецца, што ліхтары таксама днём гараць — нібы сонцу свяціць памагаюць.

Значыць, справы з ліхтарамі ў нас не зусім у парадку.

Асабліва варожа ставяцца да ліхтароў веласіпедысты і фурманы. Ездзяць ў поцемкі па дарогах, бы прывіды. Спяшаюцца да дарожных катастроф даехаць.

Паўбяды, калі давядзецца ім ў бальніцу трапіць, але горш — калі на могільнік. Тады і шматлікія ліхтары не запаляць жыцця, якое згасла.

Мой сусед пехатою ходзіць, а ў кішэні ліхтарык носіць. Пачуе грукат калёс, адразу сноп святла пасылае. Ведай, маўляў, што не адзін па дарозе блукаеш.

І падумайце, дарагія чытачы, аб'язджаюць суседа бокам. Значыць, дажыве чалавек да сваёй смерці.

Я ўсім, хто не захоўвае правіл дарожнага руху, ставіў бы ліхтары галавешкай, каб яны небяспечнымі для іншых не былі.

А што ў вёсках ночанькі цёмныя, дык гэта зусім не перашкаджае людзям мець асвечаны розум.

## МОЙ ПЕРАВАРОТ

Дзень быў не толькі святочны, але і цёплы. Сядзеў я ля хаты на лавачцы і грэўся, бы кот, на сонцы.

Думкі плылі ляніва, як хмаркі на небе, а тут прыходзіць жонка ды кажа:

— Сёння прыдзе кум з кумою, чаем ад іх не адкарашкаешся, схадзі, купі віна.

І падае мне пры гэтым 100 злоты.

Шкада мне было з гультайствам расставацца. Не маглі кумы, ліха на іх няма, учора прысці! Але нічога не зробіш, сабраўся я, іду, бачу — у цэнтры вёскі столікі з кніжкамі стаяць, а ля іх народ таўчэцца.

Пытаю па сакрэту прадаўшчыка, чаму гэта кніжкі павыносілі на вуліцу. А ён мне растлумачвае, што цяпер «Дні асветы, кніжкі і друку» і ў сваю чаргу пытае, што я чытаў.

Адказваю, што чытаў «Жыціе святога Нікадыма», потым «Соньку — залатую ручку» і яшчэ «Сто цудаў чорнай магіі».

Прадаўшчык паглядзеў на мяне нейк дзіўна і кажа:

— Цёмны ты, дзядзька, чалавек, як той туман вячэрні, дзярмо чытаў, а сапраўднай кніжкі і ў вочы не бачыў.

Пакрыўдзіўся я і адышоў да наступнага століка паўзіраецца, як гэта сапраўдная кніжка выглядае. А тут латарэя. Людзі цягнуць білецікі,

гамоняць, хвалююцца. Адзін, нарэшце, выграў. Кніжачка цудоўненькая, пераплеценая, каляровая. Прыемна паглядзець.

Пачынаю і я хваляваецца. Эгэ, аказваецца, на гэтай латарэі можна выграць не толькі бібліятэчку, але нават матацыкл.

Набраў я на 5 злоты білетаў і нічога не выграў. Злосць мяне ўзяла: іншыя выігрываюць, а я... Зноў пацягнуў, гэтым разам на 10 злоты. Выграў і вярнуў затрачаныя грошы. Пацягнуў яшчэ. І пашла тут такая работа, што прадавец ледзь паспяваў мне кніжкі адкладаць. Праз дзесяць мінут выдаў я свае 100 злоты і шкадаваў, што больш грошай не маю.

Паскладаў я выграныя кніжкі, узяў іх аберуч і нясу дахаты, здаволены, што хоць раз ў жыцці пашанцавала.

Прынёс я гэтыя кніжкі дамоў і аддаю жонцы. А яна схапіла мяне за грудзі і пытае:

— Дзе віно? Кумы прыдуць!

— Чэрці іх не возьмуць і без віна, — адказваю.

А жонка сваё:

— Дзе віно?!

Не вытрымаў я.

— Што, табе лысы кум і шчарбатая кума даражэй кніжак? — пачаў я ўсведамляць жонку. — Цёмны ты чалавек, як той туман вячэрні...

Жонка не дала дакончыць і пабегла па мятлу.

Што потым было, гэта неважна. Гасцей ў той дзень я не бачыў. Потым ад суседзяў даведаўся, што падчас нашай культурнай рэвалюцыі кум і кума стаялі пад акном і ўсё чулі.

## ЖАНАТЫМ.

Многа ёсць цярплівых мужыкоў. Ёсць нават такія героі, што па 50 год пражылі з жонкамі і за гэта залатымі ордэнамі ўзнагароджаны.

З чужой жонкай магчыма і я вытрымаў бы толькі год, але са сваёй не ручаюся — вельмі музыкальная. Цэлы дзень спявае. Як пачне раніцай песняю «Каб ты праваліўся», то кончыць аж вечарам арыяй «Калі ж цябе чэрці возьмуць».

Усё жыццё я марыў аб тым, каб мець глуханямую жонку. Чароўнае, казачнае жыццё! Уявіце сабе, дарагія мае: сядзіш, люльку курыш, жонка ў хаце, а цішыня, як макам засеяў. Чуеш нават, як камар носам шмарытае.

Я заўсёды вельмі цікавіўся праблемай хатняй цішыні, але ніколі не мог сабе ўявіць, як з крыклівых жонак робяцца нямовы.

Ну, у мяне, праўду кажучы, нязгорш справы маюцца, можна вытрымаць. Але некаторых жонкі каструлямі б'юць, качэргамі калоцяць. А тэлеркі ў іх, як спутнікі па хаце лётаюць.

Сяджу я аднойчы ў піўной з куфлем піва, ажно падсядае да мяне нейкі грамадзянін. Таксама з півам.

Выпілі мы і па другім заказалі. Бачу, мой субяседнік глуханямы.

— А вы жанаты? — пытаю на мігі яго.

— Так, жанаты, — адказвае ён.

— Шчасце то якое! У хаце цішыня... Глуханямая жонка — гэта ж скарб, — паказваю рукамі.

А мой субяседнік губы крывіць, плюе і паказвае, што яшчэ горш. Тут без рук не абыдзешся, заўсёды яны ў руху.

Прыгледзеўся я субяседніку. Нешчаслівы ён чалавек, — думаю, — такі самы як і я, як і іншыя.

Цяпер засталося нам адно выйсце: пакласці ўсю надзею на вынаходцаў — мо' штучных жонак стануць вырабляць?

Вось было б жыццё!

Вымеш такую жонку з шафы, яна папрыбірае, памые, ды зноў марш у шафу.

А як каму ўзбрыдзе з жывою бабай аб пагодзе пагутарыць, то на гадзінку заглянуць да суседкі не грэх. Штучная жонка рэўнаваць не будзе.

Для жанчын штучных мужыкоў рабіць не шкодзіла б. Няхай такога цёгала б за чупрыну, няхай качалкай калаціла б, няхай нават гарачы суп на галаву яму вылівала б, ён усё вытрымаў бы.

Але, зрэшты, хто яго ведае, можа і не вытрымаў бы. Нельга забываць, што якасць вытворчасці ў нас нізкая

## ВЫНАХОДНІК

Кастусь паглядзеў на прысутных так, як глядзеў Напалеон на поле пад Аўстэрліц, пасля падняў руку, наказваючы цішыню, і пачаў даклад.

— Паважаныя грамадзяне вясковага саслоўя! Лепшага жыцця нам ніхто не дасць, калі сваёй галавой не выпрацуем яго. Пад нашымі нагамі мільёны валяюцца, а мы, калупаючы ў носе, топчам па гэтым багацтве.

Наш зямны шар у сярэдзіне растоплены. Розныя металы — мінералы кіпяць у ім, як у гаршчку. Гэтай кіпятні і за дзесяць тысяч год канца не будзе. На глыбіні кожных 100 метраў тэмпература зямлі павялічваецца на 3 градусы. Калі ўглыбішся на 7 кіламетраў, дойдзеш да тэмпературы 200 градусаў. Хопіць тады нам выкапаць такія два калодзежы, пусціць у адзін з іх ваду — і з другога выляціць пара. Тады застанецца толькі трубы пралажыць да хатаў і паравое ацяпленне гатовае.

Не патрабуем тады ноччу ў лес ехаць і дровы красці, або ляснікам барыш ставіць. У хатах зімою будзе так цёпла, што хоць без нагавіц хадзі.

Калектыўную сушарку ў вёсцы паставім. Бабам будзе выгода вялікая. У такой сушарцы не толькі бялізну, грыбы, ягады ці гарох, але нават чорта рагатага разам з капытамі засушыш.

Да паравога катла турбіну прычэпім і паравы млын у нас запыхкае, сячкарня зачахкае. Да турбіны падставім дынама і бясплатная электрычнасць усю вёску асвеціць, ды так, што Цімох з Параскай па цёмных кутках перастануць церціся, людзей не будуць смяшыць.

На гародах паравую цяплярню пабудуем і зімою грошы паплывуць у нашыя кішэні за памідоры, радыску, салату.

А ў лазні, якая вырасце за вёскай, вельмі ж дарэчы будзе нам з суседкамі паталкавацць, а пасля бярозавымі венікамі грэшнае цела вытрапаць.

Хлявы і куратнікі ацэплім. Куры зімой нясціся будуць. Бяры за кожнае яйцо два сорак.

Падземная пара рэвалюцыю ў сельскай гаспадарцы зробіць. Адвечныя звычаі пераменіць. Сустракаючыся, замест «добры дзень», будзем гаварыць «з лёгкай парай».

Тут Кастусь зрабіў перапынак у сваіх вывадах і ў гэты час спытаў нехта.

— Добрая штука — пара. Але ты, даражэнькі, скажы нам, як дакапацца да гэтай тэмпературы. Гэта ж не жартачкі, такая глыб.

Кастусь пашукаў вачыма пытаючага, падрапаў патыліцу, а пасля адказаў:

— Вясковыя грамадзяне, я ж не інжынер. Адкуль жа мне гэта ведаць. Калі б я ведаў, дык сам даўно да парацяплоўні прыступіў бы. Аднак, даражэнькія, за гэтую справу калектыўна трэба брацца. Самае галоўнае — ініцыятыва. Я вам і падказаў яе. А рэшта — гэта ўжо Вашая справа.

Мілыя чытачы! Бяда ў тым, што ў нас ініцыятыва з лёгкай парай выскаквае, а калі даходзіць да справы — людзей не хапае.

## ЛАЯНКА

Любяць у нас лаяцца людзі. У чарзе, на вуліцы, на кірмашы, усюды, найменшая прычына і ўжо лаянка. Больш нахабныя грамадзяне лаюцца на ўвесь рот. Такім здаецца, што яны ўмеюць лаяцца лепш за іншых і сваёй лаянкай хутка гасяць канкурэнтаў. Людзі нават не заўважаюць, як з іхніх ратоў выскакваюць брыдкія словы, а калі і апамятаюцца — сварка ўжо пажарам разгарэлася.

Нядаўна мне давялося бачыць, як матацыкліст ледзь не наехаў на чалавека. Затармазіў ўжо перад самым носам прахожага.

— Ты, чатырохслепневы чорт, глядзі куды прэшся... Кожнае га... на колы чапляецца! — гукнуў матацыкліст грымучым басам.

Прахожы паглядзеў на таго, хто лаяўся і гаворыць:

— Дазвольце, грамадзянін, ваш адрас, прыду адвячоркам прадэманстраваць сеанс лаянкі.

— Ты, стары хлам, чортавае барахло, не будзь такі дасціпны, мне на такіх напляваць!

Тут прахожага і панясло.

— Ах ты, шчанюк зматарызаваны! Ледзь-ледзь на мяне не наехаў яшчэ і лаецца, маці тваю на каруселі круціць! Замкні сваю плявальніцу на вуліцы! За твае адносіны да прахожых чарцям бы гарох малаціць на тваёй галаве! Бацькам тваім у пячонку, селязёнку і ў пуп язва

за тое, што цябе на свет звялі! Лепш на здохлага сабаку глядзець, чым на сына твайго бацькі! Гліста ты матацыклетная, ёлуп цара нябеснага, смярдзіш на вуліцы бензінам, толькі паветра людзям паганіш! Свой засморканы матор на звалку аддай! Выкідыш ты, а не парадачны чалавек! На асенізацыйнай бочцы табе ездзіць, а не на матацыкле!

Магчыма, што прахожы працягваў бы сваю тыраду, але тут як гром пасыпаліся апладысменты, якія спынілі бурны паток слоў. Гэта натоўп на свой спосаб выражаў задавальненне і пахвалу таленту прахожага.

Вінаваты пабялеў, апусціў галаву, нібы чакаў, калі людзі расступяцца і ён зможа праехаць.

— З часам кожны нарвецца на свайго, — прамовіў нейкі грамадзянін і, хлопнуўшы прахожага па плячах, запрапанаваў:

— Зайдзем, даражэнькі, у піўную, я стаўлю, прыемна пагутарыць з адукаваным чалавекам.

Між намі кажучы, дарагія чытачы, лаяцца не належыцца, непрыстойна гэтак.

Для такой мудрасці, як лаянка, вялікага розуму не патрэба.

## КУЛІНАРНАЯ КНІГА

Скажыце, паважаныя грамадзяне, што гэта здарылася, што ўсе жанчыны ганяюцца за кулінарнай кнігай.

Выходзіць на тое, што без гэтай кнігі жыць немагчыма. А па-мойму, няхай бы кожны чытач даў мне па гусаку, я б іх, лапчастых, і без кніжкі ўрабіў бы. Аднаго з капустай, другога з яблыкамі, трэцяга з кашай. Кожны б з вас пальчыкі аблізваў.

Заходжу я на днях да суседа, а яго жонка сядзіць і вычытвае з кулінарнай кнігі:

— Узяць літр смятаны, разбіць 20 яек, аддзяліць жаўткі ад белкоў...

Тут я не вытрымаў і кажу:

— Навошта псаваць толькі яек, дайце мне 5 штук і лустку сала, я вам такую яечню закачу, што чэрцям слінка пацячэ.

А яна не звяртае на мяне ўвагі і чытае далей:

— Потым аддзяліць мяса ад касцей...

— Суседачка, — здзіўляюся я, — дык каля касцей мяса найсмачнейшае!

Але яна чытае далей:

— Калі не маеце спецыяльнага малатка, дык бярыце качалку і адбівайце...

Тут я задам да дзвярэй падаўся.

— Гэта ты ўжо на сваім мужыку практыкуй, — сказаў я на развітанне.

Нічога, шчасліва вышаў.

Іду я па вуліцы і каля гасподы сустракаю сябра. Змучаны — лоб мокры, быццам гэта ён а не Ісус, нёс крыж на Галгофу.

Зацягнуў я яго ў гасподу, каб як-небудзь адкачаць чалавека півам. За другім куфлем ён мне і расказаў:

— Купіла, значыць, жонка кулінарную кнігу і паслала мяне за лаўровым лісцем. Паехаў я ў мястэчка, абегаў усе крамы, лаўровага лісця не знашоў. Праўда, раілі мне крамары схадзіць да іхняга начальніка, маўляў, у яго на галаве цэлы лаўровы вянок. Але ён так высака носіць голаў, што немагчыма дастаць лістка.

На другі дзень пагнаўся за гэтым лісцем аж у Беласток. Трэці дзень без абеда хаджу, жонка ўпіраецца гатаваць толькі па кніжцы.

Цяпер паслала за англійскім перцам. У ПСС параілі мне замест англійскага, узяць турэцкі. А я чуў толькі пра турэцкія гарэмы. Для чаго там ужываюць гэты перац, зусім не разумею.

Выпілі мы чуць-чуць і так майму сябру добра стала, што ў гасподзе спаць размясціўся. Папрасіў я буфетчыцу каб заапекавалася сябрам і, калі замкне яго нанач, каб гарэлку схавала, а сам пашоў дамоў.

Прыходжу, а жонка спатыкае мяне са шчаслівай усмешкай ды кажа:

— Нарэшце дастала кулінарную кнігу.

Ну, думаю, цяпер трымайся, Лявонь, пачынаецца!

## ЧУЖАЗЕМКА

Мабыць, не ўсе нашы чытачы ведаюць, што па Беластоцкай зямлі міжнародны цягнік ходзіць.

Так здарылася, што, вяртаючыся з Варшавы, трапіў я ў гэты менавіта цягнік. Сядаю, значыць, я ў вагон, бачу — ля акна — адзінокая панюся. Ну, і, дзеля мілай кампаніі, заходжу ў яе купэ. Як бы там не было, але цікава з чужаземкай пагутарыць і даведацца, чым у іх там, за граніцай, пахне.

І вось сяджу насупраць чужаземкі і сачу за ёй. На полцы куфэрак у чахле ляжыць. «Адразу відаць, што заграні́чны», — думаю сабе. Але як тут падысці да справы.

Уявіце, людзі мілыя, ні па куфэрку, ні па панюсі не магу устанавіць, якой нацыянальнасці гэтая чужаземка і па-якому з ёю балакаць.

Калі немачка, дык трэба было б па-нямецку прадставіцца, а я з нямецкай мовай ні ў зуб нагою. Калі б выявілася, што гэта англічанка, давялося б на пальцах гутарыць. Словам — становішча засморканае.

Вырашыў я пагаварыць з панюсяй на міжнароднай французскай мове, але тут жа прыпомніў, што ведаю толькі два французскія словы: пардон і мерсі.

Тымчасам чужаземка, гартаючы часопіс, упусціла яго на падлогу.

— Пардон, — кажу і хутка нахіліўшыся, паднімаю часопіс і падаю панюсі. А яна так міла па-чужаземнаму ўсміхаецца і гаворыць чужаземнай мовай: «Мерсі, мосье». А я ні слова не магу падабраць у французскай гаворцы. У мяне аж пот французскі выступіў на ілбе. А панюся залажыла ногу на ногу, загранічнае каленца паказвае, спадцішка вачыма кідае і чакае на размову.

Тут цягнік затрымаўся ля семафора. Чужаземка гаворыць: — Кес кесе, мосье?

Я на калені стаў, пад лаўкі заглядаю, нават «кіс, кіс» пазваў, але кошкі не знашоў. Паднімаюся я з калекаў, раскладаю рукі і кажу:



— Пардон, панюся, але мяў, мяў няма.

Чужаземка, шэльма, смяецца. І не то, што смяецца, але проста выцягваецца са смеху.

А цягнік бестурботна бяжыць далей і нават кандуктар не звяртае ўвагі на мае французская цяжкасці.

Раптам схапіўся я: ці варта наогул працягваць мілую гутарку з чужаземкай? А што яна ў тым куфэрку вязе, а чаму яна яго чахлом закрыла, а можа яна, гэтак кажучы класавым ворагам з'яўляецца? А я сліну распусціў і на тэрыторыі народнай дзяржавы захапляюся чужаземкай!

Ад падобных думак адразу на душы лягчэй зрабілася, быццам у дзень выплаты. Так мы моўчкі і даехалі да Беластока.

Калі цягнік затрымаўся на пероне, у купэ ўбег прысадзісты бландзін і ў абдымкі да чужаземкі. Калі нацалаваліся, чую, панюся шчабеча яму па-нашаму:

— Як добра, Максім, што вышаў сустрэць. Гэты дурнаваты француз надакучыў за дарогу горш горкай рэдзькі. Уяві сабе, кошку згубіў і з жалю мяўкаў.

Пры гэтых словах панюся ўсміхнулася да мяне і сказала: — Орэвуар, мосье!

## МІС БЕЛАСТОКА

Толькі ўвашоў я ў хату, а жонка заяўляе мне афіцыйным тонам:

— Вырашыла я прыняць ўдзел у конкурсе на «Міс Беластока».

І тут жа, змяніўшы тон, абняла мяне і ўсхваляваным шэптам дадала:

— Ну, Лявонька, так і лічы, што твая жонка заняла першае месца.

Сустрэўшыся з маім гнеўным позіркам, жонка зноў перашла на афіцыйны тон і сказала.

— Норма Сіка з Манчэстэр, як пішуць газеты, мае ў бюсце 104 см, а я? Ну, як па-твойму, колькі я маю?

— Ну, дык вось, хай сабе гэтая Сіка сядзіць ціха ў сваім Манчэстэр і не смешыць людзей, у мяне бюст — 175 см.

— Можаш паспрабаваць шчасця ў міліцыі, паводле бюсту падыходзіш, — пацешыў я жонку і спытаў, ці гатовы абед.

— Перакусі што-небудзь, сёння не мела часу гатаваць абед, бо шыла сабе купальны касцюм, — адказала жонка.

— З глузду з'ехала, у сакавіку ніхто не купаецца! — крыкнуў я.

Жонка, не звяртаючы ўвагі на мае словы, выйшла з пакоя.

Пачаў я шнырыць у пошуках ежы, ажно ўваходзіць жонка ў купальным касцюме.

Кінуліся ў вочы яркія чырвоныя кветкі на фоне чорнага атласу.

— Ну, што скажаш? — пераможным тонам сказала жонка, выкручваючыся перада мною. — Вазьму прыз, ці не?'

— На сельскагаспадарчай выстаўцы табе б прызналі першае месца, — сказаў я, паглядзеўшы на яе тушу.

— Глупствы гаворыш, мужчыны любяць абцякальныя формы, — упэўнена заявіла жонка.

— Так, але ў цябе гэтыя формы ўжо ўцякальныя, — запярэчыў я.

— Ты нічога не разумееш! — усклікнула жонка і стаўшы з выцягнутымі рукамі, быццам бы яна з іх толькі што птушку выпусціла, спытала:

— Як думаеш, такі здымак будзе эфектны?

— Як будзеш трымаць у руках не голуба, а індзюка, тады і эфект будзе, — сказаў я.

— Як хочаш, а я сёння падаю сваю кандыдатуру.

— Можаш падаваць, у Беластоку шмат чаго смешнага робіцца.

Між намі кажучы, у яркім купальным касцюме жонка кідаецца ў вочы. Ці ж можна ручацца за густ членаў журы?

Чым чорт не жартуе, дзякуючы жонцы і я буду вядомым у нашым ваяводскім горадзе.

## ГУЛЯ-ГУП

Млын круціць крыламі, карова круціць хвастом, а людзі, не маючы хваста і крылаў, круцяць гуля-гуп.

Ды як яшчэ круцяць! І старыя і малыя — улезуць у абруч і варочаюць бёдрамі, як турэцкія танцоўшчыцы.

Нашы грамадзяне падзяліліся цяпер на дзве часткі: адны круцяць галавой, а другія ніжняй часткай цела.

Нават знаёмыя, спаткаўшыся, пытаюць:

— Ну, як гуля-гупаецца?

Людзі, якія першы раз бяруць у рукі абруч і нарэшце ім удаецца пакруціць гэты немудрагелісты прыбор тры разы на сваім жываце, ганарацца поспехам, як бы яны выкінулі спутніка ў міжпланетныя прасторы. На другі дзень аб гэтым дасягненні даведаюцца далёкія і блізкія сваякі, знаёмыя, і выпадковыя слухачы. Толькі бондары здзіўляюцца. Гэтыя майстры ад пачатку свету маюць дачыненне з абручамі, столькі часу набівалі іх на бочкі і не прышло ім у галаву набіць абруч на чалавека.

Спартсмены прысвойваюць сабе гуля-гуп, называючы гэта спортам, харэографы ставяць танцы «гуля-гуп», гімнасты называюць гэта гімнастыкай, лекары пераконваюць, што гуля-гуп — выдатны сродак, пры дапамозе якога можна пазбегнуць атлушчэння, а мая знаёмая гаворыць, што пасля вярцення абруча ў яе воўчы апетыт і такім чынам праз тыдзень яна папраўілася на тры кілаграмы.

Навуковыя супрацоўнікі заняліся вывучэннем гуля-гуп і хутка даведаемся, колькі абаротаў на мінуту трэба выконваць, якая колькасць калорый энергіі расходуецца пры гэтым, якія змяненні ў атмасферы выклікае гуля-гуп і які ўплыў мае гуля-гуп на разумовае развіццё чалавека.

Па лініі нашай адміністрацыі хутка выйдзе інструкцыя, у якой будзе сказана аб забароне круціць гуля-гуп у аўтобусах, трамваях і на ўмярлінах. Замест таго, будзе дазволена круціць абручы на сходах, асабліва тады, як дыскусія слабая і дакладчык бяздзейнічае.

Мабыць нашы патомкі ацэняць гуля-гуп як ажыўленне нашай грамадскай дзейнасці, а пакуль што, дарагія чытачы, гуля-гупайце на здароўе. Купляючы абручы па 20 зл., пры малым расходзе, дасягайце вялікіх абаротаў.

Гуля-гупаць можна гатуючы абед, штопаючы шкарпеткі і варачы самагонку, толькі ў часе даення каровы круціць абруч невыгодна.

## МУХІ

Несумненна, стваральнік свету рабіў усё па плану. У першы дзень стварыў неба, на другі аддзяліў зямлю ад вады, на трэці стварыў свет і запаліў сонца, пасля натварыў рознай флоры і фауны, але я ніяк не магу зразумець, на што ён стварыў муху.

Муха стварэнне малое, на першы погляд не вартае ўвагі. Яна не дзярэцца як кошка, не кусаецца як сабака, не хрумкає як свіння, а дакучае чалавеку больш, чым усе гэтыя звяры разам. Сядзе муха на лоб чалавеку, той далонню лясне, што аж ў галаве зазвініць, а муха, як бачыш, ужо па носе нахальна лазіць.

На вёсцы мухі — гэта кара егіпецкая. Сабаку, вала, зачыніш, а муху ніякім цудам. Таму яны лётаюць свабодна, сядаюць на кучу гною і на іншую гадасць, а пасля прагульваюцца па харчах і пераносяць заразу.

Людзі выдумалі markрознымі мухаморамі карміць мух, ліпкія паперы на іх вешаць, але гэтае апошняе не заўсёды можна дастаць у крамах нашых ГС-аў. У вясковых крамах лягчэй купіць вупраж для каня і ланцуг для каровы, чым нейкую атруту для мух.

Мой дзед, калі ўжо быў стары, што не мог на паляванне хадзіць, прыбіў да палачкі старую падэшву і з такім ружжом паляваў на мухі. Дзе толькі ўбачыў муху, зараз жа падступаў з сваёй мухабойкай і на месцы мухі толькі мокрае месца заставалася. Добры быў гэты мой дзядуля. Калі ён жыў, тады ніводная муха не мела права жыць у хаце. Але што ж, дзед ужо даўно памёр і таму цяпер так многа мух.

Людцы добрыя, каму дарагое здароўе, ваюйце з мушыным войскам. Будзем узбройвацца ў мухабойкі і пакажам мухам, дзе ракі зімуюць.

## СВЯТОЕ ЖЫЦЦЁ

Паўлюк — загадчык кааператыўнага магазіна ў Гнілых Грушках, сядзеў на верандзе ў мясцовага бацюшкі, ды папіваючы са сподачка чай, скардзіўся на свой лёс:

— Бачыш, бацюшка, жыву я, можна сказаць, па свяшчэннаму пісанню. Евангелле на памяць ведаю. Засмучаных я суцяшаў, моўчкі крыўды зносіў, знявагі прабачваў. Маіх дабрачынстваў ды літасці да бліжніх і злічыць немагчыма.

Галодных пакарміць, прагнучых напаіць — напісана ў свяшчэннай кнізе. А ці ж не карміў, ды не паіў? Кожнага рэвізора, кожнага інспектара карміў і паіў з длані шчодрай. Іншыя цэлымі тыднямі сядзелі. А пілі, бы вярблюды.

А ці ж голых не адзяваў? Спытайце аб гэтым Верку Іванаву. Адзяваў я яе паводле апошняй моды. Родная жонка ў мяне не хадзіла так адзетай.

Кожную суботу накладаў на сябе пакаянне. Думаў, а ну ж чаго не прыкмеціў і цяжкі грэх ляжыць ў мяне на душы. Ніколі не ішоў спаць не перахрысціўшыся... І што ж? Наляцелі бязбожнікі, панапісвалі пратаколаў, адхілілі мяне ад кіраўніцтва і пад суд аддалі.

— Так... нябачны шляхі твае, Госпадзі... — прабасіў бацюшка.

— Гэта вы, уласна кажучы, да чаго? — спытаў Паўлюк, падазрона пазіраючы на свяшчэнніка.

— Кхэ, кхэ, а да таго, што ў гэтым палец божы, выпрабаванне Госпада пакладзена на вас.

— Божа літасцівы, — узмаліўся Паўлюк, я згодны несці любое выпрабаванне твае, але ці не магло б адбыцца так, каб пакінулі мяне на пасадзе? Працаваў я, можна сказаць, па свяшчэннаму пісанню, калі каму недамерыў, або недаважыў, дык прабач, Божа, не я адна заблукаўшаяся авечка ў цябе...

Тут на веранду ўляцеў чмель.

— Ой, бацюшка, — крыкнуў Паўлюк, — бач які чмель уляцеў, баюся я іх, праклятых!

І ён ускочыў, схапіў сурвэтку і, вымахваючы ёю, закрычаў:

— А кыш, а кыш, вырадак чортаў, халера егіпецкая! Каб цябе ясная маланка забіла!..

Бацюшка паглядзеў на Паўлюка, з жалем галавою пагойдаў, ды прамовіў:

— Непрыстойныя словы выкрыкваеш у прысутнасці памазанніка. Уляцеў чмель — вялікая справа! Чмель таксама стварэнне божае. Ты на яго ручкай памахай, знак крыжа зрабі і чмель сам выляціць к чортавай матары!

А між намі кажучы, чмель не здарма заляцеў на веранду. Хоць сам стварэнне дакучлівае, але не мог вытрымаць нахабства Паўлюка.

## ДЗЯДЗЬКА З АМЕРЫКІ

Маюць жа людзі дзядзькоў у Амерыцы! Любяць такога дзядзьку, моляцца, каб ён сто дзесяць год і сто месяцаў жыў. Зразумела, гарачыя малітвы ляцяць да такіх дзядзькоў, што пачкі шлюць. А калі недзе ў Амерыцы схаваўся скупы дзядзька, то жадаюць такому, каб яго кожны дзень за жывот хапала.

У майго суседа было тры дачкі. Самай старшай 30 год, а дзве апошнія на год малодшыя. Паненкі былі ўжо падгадаваныя, а бацькі ніяк не маглі іх замуж выдаць.

Шчасце заўсёды прыходзіць нечакана. Аднойчы прыносіць пісьманосец майму суседу ліст з Амерыкі. На другі дзень цэлая аколіца ведала, што ў суседа нейкі брат ў Амерыцы знашоўся.

Цяпер каля суседавых дочак закруціліся кавалеры, як мухі каля цукру. Павесялеўшыя паненкі падаравалі сваім паклоннікам па адной амерыканскай жылетцы. Дзядзька ў вачах кавалераў на мільянера вырас.

Даведаліся іншыя кавалеры аб падараваных рэчах і таксама пачалі прагным вокам на пераспелых паненак спазіраць. Аж адзін проста — такі не сцярпеў, падмазаўся да суседа і кажа:

— Жыву я, як гарох пры дарозе. Есці не магу, сохну ад кахання. Аддайце мне, з ласкі божай, сваю старшую дачку.

Сусед хвіліну памаўчаў (гэта вядома, каб форсу больш), потым паклікаў дачку, зложыў ім рукі і сказаў:

— Ну дык жывіце і размнажайцеся, што з вамі зробіш.

Даведаўшыся аб гэтым, паклоннікі суседавых дочак аж пазелянелі з зайздрасці. Нахлынулі яны да суседа, як некалі шведы пад Чанстахову, пабіліся паміж сабою, палаяліся і двум шчаслўчыкам дасталіся суседавыя дочкі.

Ну, што ж, выцягнуліся бацькі да апошняй жылкі і за адным сталом усе вяселлі згулялі.

Ходзяць суседавыя зяці па вёсцы, насы задзіраюць, сваіх сяброў на тры крокі да сябе не падпускаюць.

Але аднойчы сабралася ўся сям'я, а муж самай старшай дачкі пытае:

— Што ж гэта дзядзечка аб сабе ні слыху ні дыху не дае?

— Піша, піша, — супакоіў яго сусед. — Другі ліст прыслаў. Хоча на бацькаўшчыну вярнуцца. Просіць, каб выслаць яму грошай на дарогу. А я скуль іх вазьму, калі на вяселле ўсе выдаў.

— А амерыканскія жылеткі? — вырвалася другім зяцям.

— У Беластоку ў камісійным магазіне выбар вялікі.

Павесілі зяці насы; апалі, бедным, вушы. Зразумелі, што без дзядзькавай дапамогі трымацца павінны.

І падумаць толькі, шчасце было так блізка.

## ВЕРАБ'І

Людзі пішуць вершы, спяваюць песні, у якіх героямі з'яўляюцца салаўі. А вось аб вераб'і ніхто нават не ўспомніць.

А ў гаспадароў вераб'і ў вантробах чырыкаюць. Вераб'і — маленькія птушкі, а ўбытак сельскай гаспадарцы прыносяць вялікі. Наляціць на ніву вераб'іная хмара і адразу некалькі кілаграмаў зерня з сабою забярэ. Чалавеку бегаць за вераб'ямі цяжка, таму яны і круцяцца каля яго нічога не баючыся.

Праўда, людзі прабуюць змагацца з вераб'ямі, ставяць чучалы на палетках, аднак калі нейкаму храбраму вераб'ю ўдасца пасядзець на гэтым чучале, тады такі герой ўсяму вераб'інаму царству абвесціць па птушынаму радыё, што чучала — не чалавек і баяцца яго няма патрэбы.

У Кітаі, каб забяспечыць пасевы ад знішчэння, аб'яўлена вераб'ям вайна і знішчаецца іх тысячамі. Вядома, кітайцы могуць пазволіць сабе на такую вайну, — іх 600 мільёнаў. Кожны кітаец зловіць па адным вераб'ю і справа закончана. А ў нас, каб пералавіць усіх верабейчыкаў, не хопіць народу.

Што будзе, калі дэлегат кітайскіх вераб'ёў даляціць да нас і даведаецца, якое ў нас прыволле для вераб'інага племені. Тады вераб'і з Кітая пераселяцца да нас.

Па-мойму трэба і ў нас заняцца вераб'іным пытаннем. Кожная птушка карысная чалавеку. Дзяцел выклёўвае шкоднікаў, шпак збірае чарвякоў, салаўі песні пяюць, зязюлі апавяшчаюць колькі год жыць будзем, буслы дзяцей носяць, адны вераб'і — разбазыраныя птушкі.

Зразумела, па - кітайску выбавіцца ад вераб'ёў нам труднавата, аднак можна было б аднаго вераб'я злавіць, даць яму аплявуху, каб спух як заяц і выпусціць. Тады ён паляціць да Адэнауэра і скажа, што дэмакратыі ў нас няма, што тэрор пашыраецца і папросіць даць нашым вераб'ям права на палітычнае прыстанішча.

## КАТЫ

Як вядома, не пануе леў у нашых лясах, таму мядзведзь у львіным намесніцтве склікаў аднойчы звярыны сход.

Для пачастунку прысутных паслужлівыя ваўкі задралі сарну, навокал якой ўселіся звяры, чакаючы мядзвежага даклада.

У парадку грамадскай нагрузкі прыблытаны шакал раздзяраў сарну, кладучы перад сабранымі сакавітыя кавалкі мяса.

Невядома як сюды трапіў кот. Ніхто яго не запрашаў. Але гэта не перашкаджала яму выгінаць спінку, абціраццa аб запрошаных і іншым кацячым спосабам прыпамінаць аб сваёй прысутнасці.

— Што за звер, якога роду — племені? — спытала ліса, каля якой праходзіў кот.

— Ні сабака, ні выдра, адным словам — мімоза, — сказаў рысь, паварухнуўшы вострымі вушамі.

— На мышэй палюе, — падказаў нехта.

— На мышэй? — перапытаў воўк-правадыр і захахатаў ва ўсю воўчую морду.

Задыхаючыся ад смеху воўк зрабіў вывад:

— Яму б за камарамі паляваць. А як трапіў гэты нікчэмнік у нашу шаноўную кампанію?

— Без запрашэння нахабнік, сам з'явіўся, — вытлумачыў бабёр, бліскаючы вачыма.

Кот тымчасам круціўся каля мядзведзя, які пачаў прамаўляць.

— Дарагія зверы! — гаварыў мядзведзь, — неабходна нам паклікаць планавую камісію для ўнармавання лясного жыцця. Не можа быць так, каб лісы харчаваліся курамі, бы цяжка хворыя, а зверы ў лясным шпіталі елі цяжкастраўнае заячае мяса.

Тут мядзведзь зрабіў паўзу і прыкмеціўшы знікненне свайго кавалка сарны, зароў:

— Хто украў маю порцыю?! Прызнавайцеся!

Зверы разгублена пераглянуліся, а мядзведзь не атрымаўшы адказу, схапіў; суседа-ваўка і трасучы яго як грушу, прыгаварваў:

— Ты, шэры разбойнік, сцягнуў мой кавалак мяса, душу вытрасу тваю зладзейскую!..

А кот тымчасам аблізваючыся ўтоптываў у зацішным месцы мінулагоднае лісце. Ён рыхтаваўся да сытнага сну.

Чым закончылася лясная гісторыя — няважна. Галоўнае, людзі добрыя, што і сярод нас катоў хапае. Такі «кот» ціхі, ласкавы, каля начальства круціцца, спіну выгінае, хвост трубою распускае і розныя плёткі мурлыча начальству, бліжніх абгаворвае.

Аглянуцца не паспееш, а ён ужо нешта сцягнуў і нявінаватыя за гэта адказваюць.

Карыстаючыся пратэкцыяй, двуногія каты становяцца ўсё больш нахабнымі і жывецца ім зусім нядрэнна.

Прыглядзеўшыся бліжэй да гэтакіх грамадзян, убачым мы мімозу ды і толькі.

## АБ ВАЙНЕ

Кожны працоўны, якой бы ён не быў нацыянальнасці, не хоча вайны. Калі б Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыняла рашэнне аб агульным разбраенні, калясо гісторыі павярнулася б у другі бок. Тады над светам сапраўды заворкаў бы голуб міру.

Зразумела, з часам маглі б узнікнуць міжнародныя канфлікты. Напрыклад ізраільцам не спадабаецца нос папы рымскага і яны выкажуць пастанову: «маўляў, змяні, папа, форму носа, а не — дык пасадзім на трон патомка Майсея». За папу заступаюцца італьянцы. Наступае збройны канфлікт. Войскі Ізраіля ідуць на ворага з апельсінамі ў руках, а італьянцы цягнуць батарэі палявых кухняў, у якіх апетычна пыхкае макарон. Ізраільцы закідваюць італьянцаў апельсінамі, а тыя зноў лупяць ізраільцаў гарачым макаронам. Амерыка пасылае для абароны сваіх грамадзян экспедыцыйны корпус, узброены гумай да жавання.

Выходзіць не вайна, а прыемнасць. Пры такой вайне непатрэбны былі б палявыя лазарэты.

Толькі з грэкамі становішча было б клапатлівае. Яны ваявалі б грэцкімі арэхамі, а я за гэта дзякую. Грэцкі арэх можа набіць шышак. Але і на іх знашлі б мы раду. На грэкаў можна было б напусціць афрыканцаў, якія ваявалі б какосавымі арэхамі.

Тады мы сталі б народам непераможным. Мабілізавалі б мы нашых самагоншчыкаў і закідалі б ворага самагонам у гумовых бутэльках. Праз паўгадзіны варожае войска выконвала б «Лявоніху».

Пры такой вайне палявая пошта не высылала б канвертаў з чорнай рамкай. А радня салдатаў, атрымаўшы ліст з фронта, чытала б:

«Добры дзень, дарагія бацькі, жонка Насця, сынок Коля і брат Федзя! Я, дзякаваць Богу, жывы і здаровы, толькі насмарк злавіў мяне, чаго і вам жадаю. Вось ўжо два дні, як мы ваюем з балгарамі. Непрыяцель закідвае нас памідорамі. У першым баі я быў два разы ранены. Першы раз дастаў памідорам у вуха і ніяк не мог павыкідаць з вуха зярнят. Другі раз непрыяцельскі снарад трапіў мне ў лоб, разарваўся і папэцкаў твар. Дарагая жонка Насця, прышлі мне кавалак сала, ці каўбасы, а то ад памідораў мяне ўжо нудзіць, як чорта ад свянцонай вады».

Пры такіх гуманітарных ваенных дзеяннях і я паехаў бы на фронт ваенным карэспандэнтам. Запэўняю вас, людзі добрыя, смела трымаўся б я і пісаў бы карэспандэнцыі пад варожым агнём.

Нажаль ўсё гэта мара. У сапраўднасці працоўным усіх краін даводзіцца цвёрда стаяць на варце і сачыць, каб не упала ка людскія галавы атамная бомба.

## ТЫСЯЧАГОДДЗЕ

Як голасна стала ў нас з выпадку Тысячагоддзя. Злева і справа грошы збіраюць на пабудову тысячы школ, усялякія ўрачыстасці ў сувязі з гэтай важнай датай рыхтуюцца.

Каліш нават 1800-годдзе святкаваў. Дазвольце вас спытаць, людкі добрыя, якім правам Каліш перад краінай выскаквае? Герб калішан нейкі дзівосны. Паміж дзвюма вежамі мужык так дзьме ў рог, што аж іскры з вачэй сыплюцца. Мусіць надуванне там справа гістарычная.

Наша вёска таксама да Тысячагоддзя рыхтуецца. Мы, пакуль што, не маем герба, як Каліш. Але наш самародны мастак Федзька збіраецца ля ўезда ў вёску намаляваць месяц з кароўім хвастом. Праект гэты апрацаваў наш Кастусь — першы знаток па касмічных пытаннях.

Цяпер у нас хроніку пішуць і ўсялякія тысячныя паказнікі збіраюць.

Вось напрыклад, нашаму дзячку 30 год стукнула, а ён ужо 1000 пляшак гарэлкі апаражніў.

Наша бабка Матрона тысячу слоў на мінуту выпускае, проста вушы запіхай і ўцякай без агляцкі.

Многія нашы гаспадыні па тысячы яек у ГС здаюць, хоць у куратніках толькі па адным пеўні водзіцца. Курачыя мужыкі свядома к народнаму святу адносяцца.

Наш цырульнік падлічыў, што тысячу галоў абстрыг і ні адна з іх не паразумнела.

У сельскай краме тысячнага пакупніка пастанавілі літроўкай гарэлкі ўзнагародзіць, таму перад крамай чарга ад вечара да раніцы цягнецца.

З адным тысячнікам непаразуменне атрымалася. Таварыш пракурор, мусіць супроць юбілею. Нашага нарыхтоўшчыка, у якога ў касе тысячу дзесяткаў не далічыліся, пад замок пасадзіў. Чалавек мог бы ўвайсці ў хроніку як дзесяцітысячны. Але над гэтым яшчэ спрэчкі ідуць — можа нарыхтоўшчык у хроніку ўвойдзе.

Як бачыце, людзі добрыя, вёска ў нас невялікая, але тысячнікаў знашлося немала. Колькі збярэцца гістарычных спраў да Міленіума — падумаць страшна.

Некаторыя сяляне нашай вёскі не падтрымліваюць Міленіума: гавораць, што святкаваць раз на тысячу год — няважная справа. Як гуляць, то прынамсі штогод.

Яшчэ неабходна падкрэсліць, што план святкавання не дашоў да мас і людзі не ведаюць, як свята будзе адбывацца — оптам ці ў розніцу.

З выпадаку Міленіума нашым грамадзянам абавязкова трэ' было б даць па карове з пазалочанымі рагамі. Без падарунка яны хутка пра свята забудуць. А калі б трапіліся ў дадатак бадлівыя каровы, тады ўспаміны аб свяце былі б частымі.

Мы яшчэ не набіралі вопыту, як святкаваць тысячагоддзе. Гэта ў нас, пакуль што, першы міленіум. Але, як дажывем да другога тысячагоддзя, тады выправім свае першыя памылкі і так адсвяткуем, што ў галаве тысячу дзён шумець будзе.

## БЕЛЛВЕЖА

Зямля наша выдатная, ад вякоў Белавежскай пушчай славіцца.

Польскія гетманы, рускія цары, нямецкія канцлеры — усе яны прыязджалі ў Пушчу захапляцца векавой прыгажуняй.

Вядома, ад такіх гасцей зубры хаваліся як найдалей.

Хлусіў Герынг, што калі ён выстраліў у зубра, той, задзёршы хвост, пачаў з задавалення вакол яго бегаць.

— Потым бачыць зубр, — казаў Герынг, — што куля яго даганяе, схаваўся за дуб, але тут яна яго і злавіла.

Гэтай хлусні старэйшы гітлераўскі брахун Гебельс прырабіў ідэалагічны хрыбет. Ён даказваў, што ў гэтага зубра і раней стралялі. Цар Мікалай страляў — не папаў, Рыдз Сміглы страляў — прахібнуў, а нямецкая куля зубра трапіла.

Нашаму народу Белавежская пушча заўсёды родным домам была. Усе, хто не хацеў схіляць галавы перад свастыкай, хаваліся паміж белавежскімі дубамі. Фашысты ў гарадах прыбівалі надпісы «Толькі для немцаў», а ў Белавежскай пушчы на кожным дубе было напісана «Немцам уваход забаронены».

Цяпер наша пушча інакш сустракае заграніцу. Замежным турыстам вельмі хочацца паглядзець на жывых зуброў і пераканацца, што

гэта не перафарбаваныя каровы. За сваю цікавасць турысты доларамі плацяць.

Ад гэтага зубры з задавальненнем аблізваюцца і радасна падскакваюць. Ім здаецца, што турысты валюту прывозяць, каб яны, зубры, маглі загранічных гасцей аглядаць.

## ТЭЛЕВІЗІЯ

Людзі добрыя! У Крыніцы каля Дабрынёва ставяць тэлевізійную вежу. У 1962 г. будзе яна гатовая, выбелена, стройная, усім вежам прыгажуня.

Уявіце сабе, сяджу я ў хаце, разваліўшыся як граф Браніцкі, а перада мною на экране спявачка расхадзілася. Туалет у яе нічога сабе. Усё што можна паказаць, згодна з інструкцыяй, паказвае, а аб рэшце дае магчымасць здагадвацца. Глядзіць на мяне спявачка, вочкі жмурыць і задушэўна спявае аб каханні. Галасок у яе — хай сам салавей пад хвост схаваецца. Вось мець бы такую ў хаце, спявала б на радасць ад раніцы да вечара і ад вечара да раніцы.

Праўда, мая жонка таксама спявае, але дурным голасам і каравымі словамі. Калі суседзі слухаюць гэты спеў, гусіная шкура ў іх паяўляецца, ды і мурашкі па спіне бегаюць ад яе мастацкіх выражэнняў. Але да спявачкі маёй жонцы далёка.

Гэтак глядзіш, значыць, на экран і думаеш: ну і бываюць шчаслівыя, што з такімі бабачкамі пад адным дахам знаходзяцца...

Толькі, хто яго ведае, можа гэтыя артысткі сваімі наманікюрэвзнымі ногцямі царапаюцца. Жанчыны здалёк на анёлаў падобны, а зблізку... цур, цур, няхай гэта паміж намі мужчынамі застанецца, як яны зблізку выглядаюць.

Пасля спявачкі на экране паказваюць спартыўныя спаборніцтвы. Баксёрскі матч. Роскаш у мармеладзе. Нашы хлопцы поўнасцю здольны да мардабою. Суддзя не паспявае сачыць, як з баявой пазіцыі рукавіцамі страляюць. Сяджу і не магу наглядзецца на сілу, спрыт і майстэрства. Самому хочацца быць маладзейшым.

Але, вядома, разам з дабрадзействам! Тэлевізіі трэба прыгатавацца таксама на непрыемнасці.

Вось, напрыклад, ідзе опера. Гераіня рукі ломіць, тэнар ёй у каханні прызнаецца, а бас ад рэўнасці згарае. Трагічная развязка набліжаецца. Бас кінжал прыгатаваў, невядома яшчэ толькі, каго рэзаць будзе, а тут жонка крычыць:

— Стары, прынясі дроў!

Чалавек за нервы схапіўся, але ўсё ж такі прыходзіцца з дровамі вазіцца.

Або, напрыклад, тэлеперадача з салона моды. Паказваюць мадэлі купальных касцюмаў. Мадэлькі адна ў адну. А жонка падыходзіць і выключае тэлевізар. Хоць бажыся разбажыся, не паверыць, што вы толькі на касцюмы глядзелі. Што ў такім выпадку зрабіць? Пакуль даедзеш да Крыніцы, каб паглядзець яшчэ мадэлек, дык там ужо другое будуць паказваць.

Яшчэ невядома, як далёка пойдзе нам на руку Крыніца. Можа пры дапамозе тэлевізара самагоншчыкі змогуць убачыць, як да іх міліцыя ў госці збіраецца. А магчыма, што і ў міліцыі тэлевізар паставяць, тады і закваскі зрабіць не паспееш.

Як бы там не было, а час вядзе да таго, што мы тэлевізары купім і да Варшавы свае хаты наблізім. А тады, калі хто ў сталіцы чхне, мы гэта на экране ўбачым і добрага здароўя пажадаем.

## З НАТУРЫ

Падзея адбываецца ў вясковай хаце, на якой вісіць шыльда «Амбулаторыя».

У першым пакоі сядзяць хворыя і чакаюць доктара.

Інвалід Максім, які працуе тут санітарам, стаіць ля касяка дзвярэй і назірае за парадкам. Ён прыслухоўваецца да размоў і час-ад-часу робіць свае заўвагі.

Уваходзіць доктар. Падыходзіць да яго сын каваля з чырвоным вокам. Доктар адцягнуў павеку, паглядзеў і сказаў:

— Эх, і давялося ж табе...

— Гэта ён за дачкою солтыса наглядзеўся, — заўважыў Максім.

Доктар ведаў жарты Максіма, таму не звяртаючы на яго ўвагі, сказаў хвораму:

— Шкада вока, другога не купіш. За два злоты не было б гэтай хваробы. Чухаў вока бруднымі рукамі, дык вось і прычапілася бяда. Цяпер павазіцца прыдаецца.

— А ў мяне, мілы доктар, горла баліць, голасу не падам, — хрыпіць цётка Мар'я

— На мужыка за многа крычала, вось і надарвала голас, — адазваўся Максім.

Доктар паглядзеў горла і сказаў:

Халоднай вады напілася, сагрэўшыся, не шкадавала б паўтара залатога, хваробы не было б.

— Бог з табой, доктар, я б дзесяць злоты не шкадавала, каб толькі пазбавіцца мне гэтага ліха, — хрыпіць Мар'я.

— А ў мяне зуб баліць, свету не бачу. Свечку паставіў Мікалаю-угодніку і ўсё роўна не памагае.

— Пакусаўся з суседам. Ён нябось, чалавек цвёрды, не па зубах давёўся, вось зубкі і забалелі, — не вытрываў Максім.

Доктар тымчасам глядзіць у рот хвораму і гаворыць:

— Нічога я не зраблю, зубны тут патрэбны. Новы зуб уставіш — стозлатовачкай не абыдзешся, а за тры злоты было б усё добра.

Убачыўшы, што хворых больш няма, доктар скінуў з сябе халат і пашоў у хатні абыход.

Хворым хочацца яшчэ паразмаўляць. Яны абступілі Максіма, які, так сказаць, бліжэй медыцыны і пашла гутарка.

— Адукаваны, але брахун, — адазваўся сын каваля. — Брэша, што за некалькі злоты мы не хварэлі б.

— Галава твая дурная, на кавадла толькі палажыць, — абурыўся Максім. — Доктар праўду гаварыў вам, неачэсаным. Кніжачкі санітарнаўсведамляючыя чытаць трэба.

«Ахоўвай вочы» каштуе 2 злоты. «Як пазбегнуць прастуды» — паўтара залатога, «Беражыце зубы», — тры злоты. Чыталі б вы аб прафілак-

тыцы, тады мне і доктару было б менш вазні з вамі.

Тут Максім адвярнуўся і ўзяўся набіваць люльку, паказваючы такім чынам сваю пагарду да людской цемнаты.

## КУЛЬТРАБОТА

Вядомая справа, культработа ў вёсках сонная. Ці то актыву бракуе, ці то ў людзей пораху — сказаць цяжка.

А вось у нашай вёсцы, слава Богу, культработа расце як на дрожджах, дзякуючы дзейнасці пажарнай каманды.

Некаторыя чытачы могуць скрывіць нос, даведаўшыся, што ў нас пажарнікі папісваюцца на культурнай ніве. Але ўзяўшы пад увагу, што ў пяцігодцы не было ў нас ніводнага пажару, а ў людзей ўжо даўно гарыць сум па культурных разрыўках, дык стане ясна, чаму пажарнікі заняліся гэтай справай.

Зразумела, пажарная каманда без трубача не мае эфекту. Тады першым чынам нашыя пажарнікі знашлі трубача, які разам з гарманістам і працуе ў якасці аркестра.

Штомесяц у пажарнай рамізе арганізуюцца танцавальныя вечарыны і квітнее пад апекай камендантшы буфет з выпіўкай і крутымі яечкамі.

Калі ў такі вечар трапіць у нашу вёску выпадковы чалавек і пачуе баявыя гукі аркестра і нязскладны харавы спеў, хай ведае, што гэта ў рамізе ля буфета актыў спрабуе арганізаваць харавы гурток.

У першым квартале на культурным ліку ў нас не малыя дасягненні: пятнаццаць шыб выбіта,

тры платы павалена, восем асоб з працоўнага строю выведзена.

Старшыня гуртка Саюза вясковай моладзі нейк выказаўся за ліквідацыю вечарынак у рамізе, камендантшу абазваў карчмаркай і даказваў, што раміза пастаўлена з супрацьпажарнай мэтай, а не для прытулку п'яніц.

Цяпер ён ходзіць з ліхтарамі пад вачыма. Наставілі яму іх за несвядомыя адносіны да культработы.

Мо' знойдуцца чытачы, якія крытыкаваць будуць нашых пажарнікаў, але вядомая справа — усім не дагодзіш.

## ПТУШКАФЕРМА

Цяпер навука папіла далёка наперад, і той, хто не працуе галавою, а толькі спадзяецца на дзедаўскі метад «да сёмага поту», не атрымае спадзяваных вынікаў.

Прадбачлівы гаспадар, каб павялічыць даход, арганізуе дапаможную гаспадарку.

Адны ставяць вуллі і потым пудамі мёд з іх выбіраюць, другія свіней адкормліваюць, каб за іх грошы заграбаць, іншыя зноў аб каровы ўспіраюцца. А я вырашыў залажыць птушкаферму. Падлічыў, браткі, я ўсе «за» і «супраць» і даход такі вялікі мне паказаўся, што аж на душы соладка зрабілася. Вы ж самі падумайце: яйкі прадаюцца, пух і пер'е прадаюцца, мяса таксама. А з трыбухоў абед згатаваць можна. Аказваецца, што курыца — гэта ашчадная каса.

Абмеркаваўшы ўсё гэта, я прыступіў да пабудовы куратніка. Паставіць сапраўдны куратнік — справа нялёгкая. Тут і вентыляцыю трэба зрабіць, і падлогу цагляную, і гнёзды абсталяваць, і кармушкі расставіць.

Калі куратнік быў гатовы, я задумаўся над выбарам пароды курэй. Лекгорны мне спадабаліся, але гэта лёгкая птушка: яйкі сыплюць, а мяса мала. Сасексы лепшыя. Але зноў у іх яйкі не вельмі вялікія. Значыць кармазіны. Гэта куры вялікія, цяжкія, а яйкі — бы гранаты.

Купіў я кармазінаў. Перагарадзіўшы сеткай пляцоўку перад куратнікам, у адну палавіну ўпусціў курэй, у другую — пеўняў. Паглядзеў з боку — парадак, аж сэрцу люба.

Але яек куры не неслі.

Прывёў я заатэхніка, а ён, ледзь зірнуўшы на маю птушкаферму, кажа:

— Яек не будзе, пакуль пеўні будуць аддзелены ад курэй.

— Яны ж аддзелены толькі ўдзень, ноччу спяць разам, — запярэчыў я.

— У курэй гэта справа інакш прадстаўляецца, — кажа заатэхнік.

Як на грэх, тут і жонка прыехала.

— Птушкаферму паставіў, а яйкі на кірмашы купляю! — крычыць яна.

Убачыўшы мой парадак, схапіла жонка сякеру і давай сетку рубаць. Дзірку такую выбіла, што свіння пралезла б.

Людцы добрыя, што ж тут пачалося! Пеўні, быццам паветранай трубою схопленыя, паляцелі ў яе. Мітусня, шум, крык!

З таго дня па сто яек выбірала мая жонка.

Аднак жа мне крыўдна. Куратнік будаваў паводле кніжкі «Гадоўля курэй», але аб дзірцы там нічога не пішуць. А аказваецца ўся мая праца дробязь, самае важнае — дзірка.

## АКТЫВІСТКА

У нашай вёсцы зусім незаслужанай папулярнасцю карыстаецца цётка Тэкля.

Адукацыя ў яе скупая. Тэкля не закончыла пачатковай школы. Але ёй не перашкаджае гэта ўсюды сунуць свой нос і поўным голасам выказваць свае меркаванні.

Здарыцца нешта ў вёсцы, дык цётка першая весткі аб гэтым разносіць. Ды яна і не перажыла б такой ганьбы, каб яе нехта апярэдзіў у гэтай грамадскай дзейнасці.

Дзеля хутчэйшага распаўсюджвання сваіх інфармацый, цётка круціцца без справы ў краме ГС, або ў злеўні малака, або каля калодзежа, інакш кажучы — усюды, куды навасці далятаюць з розных канцоў вёскі.

Напрыклад, паявіцца на свет чорнае цяля з белай плямай на баку; цётка ўжо ў гаспадаровай хаце за галаву хапаецца, галосячы:

— Пранясі, Госпадзі, злую хвіліну! Нічога добрага з гэтай плямы, дальбог нічога!

Перапалоханая гаспадыня пытае ў трывозе:

— Ніяк не пайму, да чаго гэта? Цяля ж здаецца — як цяля.

— Пляма — гэта знак антыхрыста. Цяля назначана самым антыхрыстам. Над хлявом няшчасце вісіць. Больш нічога не магу сказаць і так саграшыла, вымаўляючы імя нячыстага.

Цётка, хрысцячы рот, выходзіць з хаты, а ўсхваляваныя гаспадары стараюцца як найхутчэй пазбыцца няшчаснага цяляці.

Пачне хлапец хадзіць да дзяўчыны, цётка ўжо расказвае аб іх кожнаму сустрэчнаму, маўляў, не пара яны сабе.

Будзе малоць датуль, пакуль не даб'ецца свайго, што аб хлопцу і дзяўчыне загудзе ўся вёска.

Новы тавар прывязуць у краму, цётка ўжо чаргу ўстанаўляе і аб якасці тавару філасофствуе.

Калі хто захварэе ў вёсцы, без цёткі таксама не абыдзецца. Пакуль прывязуць доктара, яна сотню рад падасць, ад якіх хвораму карысць, што памёршаму ад кампрэсаў.

Тэкліна характарыстыка аб людзях аказвае большы ўплыў, чым апінія грамадскай рады. Паспрабуйце толькі пакрыўдзіць цётку — ад балота не абмыецеся.

Таму ўсе жыхары нашай вёскі баяцца Тэклі, стараюцца ёй дагаджаць і няма адважнага, які захлопнуў бы дзверы перад яе носам.

А калі ў вёсцы ёсць такіх некалькі цётак, тады жыхарам зусім невесела даводзіцца.

Людзі добрыя, ці не здаецца вам, што лепш перад такімі цёткамі трымаць язык за зубамі, а сабак з ланцугоў спускаць?

## ВЕТЛІВАСЦЬ

Ветлівасць — якасць каштоўная і неабходная чалавеку.

Ветлівасці можна навучыцца ад ветлівых людзей, або з кнігі «Ветлівасць на штодзень», якая раіць, як у тых ці іншых абставінах сябе трымаць. Напрыклад, калі сядзім мы ў піўной і на сцяне напісана «Не пляваць на падлогу» — гэта зусім не значыць, што можна суседу ў кішэню плюнуць.

Зразумела, бываюць у жыцці выпадкі не прадугледжаныя ўстаноўленым этыкетам. Мой знаёмы — чалавек нясмелы (таму яшчэ нежанаты) трапіў неяк у госці. Сядзіць, значыць, мой знаёмы бабыль за сталом і адчувае: блыха кусае нагу каля костачкі.

Чухацца ў гасцях за сталом непрыстойна! Пакуль думаў над крытычным становішчам, блыха ўжо вышэй залезла. Паднімаць нагу было б ўжо зусім недалікатна.

Коўзаецца знаёмы па крэсле, ветліва дае зразумець блысе, што яна хамавата робіць, а суседка пытае:

— Чаго вы круціцеся, як сабака на кастрыцы?

Знаёмы збянтэжыўся, але тут жа схамянуўся:

— Шаляпін мне ўспомніўся... Спяваў чалавек: «Блыха, а, ха, ха, ха!..» Толькі мне не

спяваць, але плакаць хочацца, растлумачыў бабыль далікатна, з тонкім намёкам на тоўстыя абставіны.

А ў суседкі тымчасам вочы шклянымі робяцца, на лоб вылазяць. Яна шэпча суседу:

— Проста свінства, хто тут блох распускае? Так моцна кусае мяне пад пахай.

Знаёмы яе не слухае, аб сваёй блысе думае.

«Няма выхаду», — вырашае, — трэба на момант высці і блыху з нагавіц высяліць.

Устаў ён з-за стала, прабачэння просіць, а за ім суседка падымаецца.

— Вы куды, дарагія госці?

— Я на хвілінку — на маладзік паглядзець, — апраўдваецца мой знаёмы.

А нейкі пляшкавы смактун крычыць:

— Выдумалі!.. гік... неба ў хмарах, зоркі не відаць... гік... цёмна, бы ў нашым клубе... гік... а яны на маладзік глядзець... гік...

Тымчасам блыха ў турыстыку пусцілася і ўжо апынулася ў знаёмага на жываце. Злосць на блох затрэсла чалавекам, што апісаць немагчыма.

Глядзіць знаёмы бабыль на суседку, а ў яе блыха з-пад пахі вылезла і па голых плячах трушком бяжыць.

Паслініў ён пальцы, злавіў блыху і, доўга не думаючы, кінуў ў недапітую чарку.

Блыха ап'янела і лапкі выцягнула, бы п'яны ногі.

— Мая пашана вам, — з салодкай удзячнасцю сказала жанчына.

Мой знаёмы разгубіўся, нос у чарку прасунуў і гукнуў:

— Пазнаю гадзюку, гэта яна мяне тут на імянінах кусала.

Пасля гэтага гаспадары яго не трымалі.

І ўсё здарылася таму, людзі добрыя, што чалавек не ведаў, як абыходзіцца з блыхою ў гасцях, не ведаў правіл ветлівасці.

## ЛАТКА

Неяк заходжу я ў шавецкую майстэрню і паказваю чаравікі.

— Бяда, — кажу, — здарылася, адзін чаравік распароўся, а на другім латку трэба прышыць.

Шавец агледзеў чаравік як хворага і кажа:

— Чаравікі змазныя, а дзірачкі скказныя. Латку можна даць, чаму б не прыляпіць латку, калі месца для яе акуратнае. Дзе распаролася — дратвай прышыем, мацней за новы будзе. Дзве дзесяткі ўся прыемнасць каштаваць будзе.

Я сцяміў, што шавец чалавек гаворкі.

— Дваццаць злоты заплачу...

— А чаму меўся б не заплаціць, — схапіўся шавец за мае словы. — Хіба ж сёння гэта грошы! Што купіш за дзве дзесяткі? Пяць пар яек... Ведала б курыца, дык за такую цану і не несла б іх.

— Чалавеча любы, прашу вас, як найхутчэй чаравік падрамантуйце. Абутку лішняга няма, а хадзіць трэба.

— Як найхутчэй, гм... зашыць і латачка... Хутка толькі казку гаворыцца. Раней, як назаўтра не зраблю, тут не пякарня.

— Да заўтра пачакаю, толькі прашу латачку знізу дайце, непрыкметнай будзе, — папрасіў я.

— Латку ад споду, так і будзе. Скрытая латка. Цяпер у нас скрытых спраў дастаткова. Да вайны абутак быў! На сцілкі давалі лепшую скуру, як цяпер на падноскі. Крупон!— нож не браў. А сёння скура ўсё роўна, што цукар, вады баіцца. Кажуць, што каровы вінаваты, мала травы ядуць. Па-мойму трава і скура — тое самае, што кот і вятрак. Вось вы, грамадзянін, чалавек з розумам, а з латкай да шаўца бяжыце, без майстроў і не абыдзецеся. Вось лектар расказваў аб рамесніцкіх цэхах, надта цікава гаварыў, бы паўлітра выпіў...

— Вы, мілы чалавек, пастарайцеся назаўтра, — паспяшыў я сказаць, баючыся, што шавец стане змест лекцыі расказваць.

— Добраму чалавеку можна пастарацца, чаму не? Латка з унутранага боку, гэта работа антылігентная. Абы ахвота, зробіцца ўсялякая работа, ужо мы пастараемся...

Вышаў я ад шаўца ўпэўнены, што чаравікі ў руках добрага майстра.

На другі дзень заходжу да шаўца і ўжо ад парога весела пытаю:

— Ну, як мае колы з унутранай латачкай?

Шавец паглядзеў на мяне сінімі, як вясенняе неба, вачыма, пачухаў патыліцу і сарамліва прамовіў:

— Заграбі мяне певень, забыў я пра гэтыя чаравікі. Нічога не зробіш, пажар слязою не патушыш, заўтра чаравікі будуць як новыя.

На наступны дзень, толькі я ўвашоў, а шавец першы адазваўся:

— Прабачэння просім. Усяму вінаваты Паўка. Прышоў учора ў ачко рэзацца. Карта не ішла, як заклятая, ужо было нават гэтыя боты праграў.

Толькі тады, як на свой пінжак паставіў, карта абярнулася. Усё адыграў, яшчэ Паўкіны нагавіцы выграў. Што ж карта, як баба, то падыдзе, то адвернецца. А вы ўжо за чаравікі прабзчце. Назаўтра латка будзе на месцы, як пячатка на пашпарце. Паўка — душагуб, з сабак скуру здзірае, у дубовай кары вырабляе, а потым гэтыя скуры нам прадае. Падкладкавы матэрыял патрэбны шаўцам. Каб не тое, то даўно паслаў бы я карове пад хвост гэтага сабачага душагуба. Дык вось, даражэнькі, заўтра, як певень запяе, чаравікі гатовы будуць.

Ноччу я дрэнна спаў. Снілася мне, што Паўка — душагуб у маіх чаравіках фарсіць і кукіш мне паказвае. Раненька пабег я да шаўца. Ён сустрэў мяне з радасцю. Чаравікі падае. Бачу — латка тоўстая зверху прышыта.

— Латачка магла б быць храмовая, — нясмела заўважыў я.

— Юхтовая лепшая, — упэўнена запярэчыў шавец.

— Згодна з умовай, латачка павінна знаходзіцца знізу, а то як блін, прылеплена, — не сунімаўся я.

— Знізу... залежыць, як глядзець, то таксама можа быць знізу.

Тут шавец павярнуў чаравік падноскам уверх і паглядзеў на мяне сваімі сінімі наіўнымі вачыма.

Успомніў я аб гэтым шаўцу таму, што многія ў нас выконваюць свае абавязкі зусім таксама, як ён.

## СПЯКОТА

Вядома, у гарачыя дзянькі людзі без вады поўзаюць, як мухі ў смятане.

У Беластоку летам цяжка дастаць штонебудзь для піцця, апроч цёплага піва. Менавіта па гэтай справе я і пашоў ў гандлёвы аддзел з рацыяналізатарскай прапановай.

Там прынялі мяне добра, нават на крэсла пасадзілі.

Тут жа, без бюракратыі, канферэнцыю наладзілі.

Далажыў я ў чым справа:

— Цяпер, — кажу, — лета, спёка, чалавеку хочацца піць як вярблюду ў пустыні. Вось таму, даражэнькія, трэба паставіць на вуліцах пяць кіёскаў з прахаладжальнымі напіткамі. Ну, а за праект хачу нядорага, толькі бутэльку ліманаду з газам.

Пасля майго даклада шырока разгарнуліся спрэчкі. Адзін кажа:

— Пяць кіёскаў паставіць можна, а больш ставіць нерацыянальна, чэргі за напіткамі будуць за малыя, за кароткія.

Другі кажа:

— Загадчык патрэбны, каб загадваць продажу. Бухгалтар неабходны — інакш хто ж будзе лічыць бутэлькі? Без касіршы тут таксама не абысціся — трэба ж выручку прымаць і зарплату плаціць.

Трэці патрабуе начальніка кадраў прызначыць, каб парадак быў. Чацверты даказвае, што супрацьпажарны інспектар патрэбны.

Коратка кажучы, калі падлічылі, выявілася, што неабходна прыняць на працу 25 служачых. Тут я не вытрымаў і кажу:

— Людзі добрыя, пяць работнікаў і толькі служачых, што вы робіце?

А мне адказваюць:

— Гэта зусім нармальна.

І перашлі да пытання фінансавага боку справы. Як падлічылі, дэфіцыт вышаў як слон.

Нікога гэта не здзівіла. Вырашылі напісаць у Варшаву, што, маўляў, справа важная, спёка, людзі як мухі і гэтак далей, без датацыі ніяк нельга напіцца.

Тут я закрычаў:

— Гнаць вас бруднай мяцёлкай па шыі! Грамадзяне! Ратуйце дзяржаўныя грошыкі!

Не памагло. Пазванілі па карэтку хуткай дапамогі і цяпер сяджу я ў Харошчы і думаю: «Хто з нас вар'ят?»

А між намі кажучы, сапраўды горача ў галаве ад падобных спраў.

## ГАСЦІНА Ў ЧОРТА

Тупая дрымота ахутвала мае мазгі. Я глядзеў на столь, быццам меў на ёй знайсці тэму да фельетона. Нажаль на столі не толькі тэмы, але нават мухі не было.

— Каб іх чорт узяў, такія справы! — вылаяўся я з нуды.

І толькі вырваліся ў мяне гэтыя словы, як навокал запахла серкай. Я павярнуў галаву, бачу — стаіць ён, рыжы, побач; з іранічнай усмешкай, са злавесным бліскам у вачах, апрануты ў чорны касцюм з моднай мушкай.

З выгляду змахваў на эстраднага артыста, аднак жа кручкаватыя пальцы і рожкі, што тырчэлі з-пад кучаравых валос, выяўлялі яго прафесію.

— Вы ўспаміналі мяне? — сказаў «госць» ахрыплым голасам.

— Даруйце, мімаволі вырвалася мне гэтае слова, — апраўдваўся я, а калені мае так і ўгіналіся.

— Хе, хе, хе! — засмяяўся ён. — Дзе я не з'яўлюся, там зараз кожнаму дух займае. — І заўважыў: — Табе, дзядзька, ужо ў пекла пара.

Хацеў я запярэчыць, але не паспеў. Нехта пацягнуў мяне за ногу, у вушах зашумеў вецер, бліснула маланка, ударыў гром... і я апынуўся ў пекле.

Мой праваднік адчыніў вароты: перада мною ляжала вялікая плошча, застаўленая агромністымі катламі, у якіх гатавалася смала. Каля кожнага катла стаяў чорт з трызубцам. Калі ў якім катле вынырала галава паверх смалы, дзяжурны чорт папіхаў яе трызубцам на дно.

— А дзе, — пытаю, — нашы мучацца?

Ён адышоў некалькі крокаў і паказаў мне кацёл з надпісам «Тутэйшыя». Я здзівіўся — чорта з трызубцам тут не было.

— Чаму пры гэтым катле за парадкам не сочаць? — спытаў я прыдзірліва, здаволены, што змагу напісаць фельетон аб бязладдзі ў пекле.

— Э, браток, — сказаў чорт, — у гэтым катле людзі асаблівыя, яны самі за парадкам сочаць. Як толькі хто галаву высуне, іншыя схопяць яго, ды зноў на дно пацягнулі:..

Пасля апошніх слоў ён схапіў мяне і з размаху кінуў у кацёл.

У гэты момант я трэснуўся ілбом у стол і... прачнуўся.

Лоб аж трашчаў ад болю. У думках перасоўвалася усё, што бачыў у сне. І я падумаў: многа ў нас такіх людзей, якія толькі і імкнуцца, каб уцягнуць бліжняга ў мутнасць.

У згуртаванасці сіла, дарагія чытачы, і к чорту усіх, хто разбівае адзінства.

## ЧЫГУНАЧНАЯ РАПСОДЫЯ

Кожнаму вядома, што ў нас на адно вольнае месца ў вагоне прадаюць неабмежаваную колькасць білетаў, а перапоўненыя цягнікі ездзяць як чарапахі, быццам бы арыентуючыся на пагаворку: цішэй едзеш — далей будзеш.

Стэфенсон прыдумаў паравоз на карысць чалавецтву, а нашае чыгуначнае начальства так эксплуатуе вынаходства Стэфенсона, што людзі, чакаючы на цягнік і падчас язды, праклінаюць чыгунку ў пячонку, селязёнку і ва ўсе апошнія трыбухі.

Непарадкі на чыгунках прычыняюць шмат непрыемнасцей грамадзянам.

Раскажу адну з падобных гісторый.

Са Страблі ў Беласток прыехалі муж і жонка купіць усялякія прыпасы на хрысціны. Калі ўжо ўсё купілі, зашлі ў універсальны магазін і тут пасправаліся, як гэта здараецца паміж мужыком і жонкай. Ён хацеў купіць ружовае пакрывала, а жонка выбрала сіняе.

Хоць пасварыліся, але пашлі разам у рэстаран паабедаць. Мужыку паказалася, што нейкі незнаёмы за суседнім столікам маргнуў, а жонка яму ў адказ усміхнулася. Тут і прышло няшчасце. Да канца абеда над іх столікам павісла цёмная хмара.

З рэстарана вышлі ў розныя бакі, ён на вакзал, а яна на Паўднёвую шашу шукаць

спадарожны аўтобус. Прыехала жонка ў Страблю, прывезла пакупкі, бабуля памагла ёй падрыхтаваць усякую страву на заўтрашнія хрысціны, а мужыка няма.

Лягла спаць сама. На другі дзень госці зышліся, аб лёсе гаспадара цікавяцца, дзіцё ўжо ахрысцілі, а мужык у той час на адной назе ў перапоўненым вагоне набліжаецца да прыпынку — Лявіцкая.

Праз дзень бабуля захварэла, нават прыезду лекара не дачакалася, прыйшлося маладзіцы рыхтавацца да хаўтур.

Самой з малышом цяжка было ўсё зрабіць, бо ў нас вядома, як бывае, хутчэй цяля выгадуеш, чым дастанеш патрэбную пісульку з якой-небудзь установы.

Дзякуй суседзям, памаглі бабулю пахаваць, а цягнік з мужыком у той час пыхкаў, свістаў і, выпускаючы воблакі пары, набліжаўся да прыпынку Зімнохі.

Кветкі выраслі на магілцы бабкі, калі цягнік са змяіным шыпеннем набліжаўся да станцыі Страбля і свістам перасцерагаў дзяжурнага на станцыі, што набліжаецца небяспека.

Калі муж урэшце вярнуўся да сваіх пенатаў і даведаўся аб усім, што адбылося, ён з жахам ускрыкнуў:

— Бабуля ты наша, нікому ж ты ніякай крыўды не прычыніла! Чаму ж ты, ўсёмагутны Божа яе забраў, а чыгуначнае начальства пакінуў!..

## МЕТРЫКА

Мой сябра купіў сабаку. З выпадку гэтага папрасіў мяне на чарку. Агледзеў я пакупку і бачу, што гэтаму шчаняці яшчэ далёка да сабакі.

Сябра на шчаня паглядае і здаецца яму, што ён недзе ў сёмы рай трапіў — такі рады. Цешыцца не толькі сабакай, але і метрыкай, якую атрымаў у прыдачу да сабакі. Сябра паказаў мне гэтую метрыку. Былі на ёй дзве пячаткі і два подпісы.

У метрыцы напісана, што сабака Буян належыць да Агафона Трасцы (значыцца да сябра) выводзіцца з другога памета Рэкса і Леды. Бацька Буяна — Рэкс выводзіцца з Цэзара і сукі Амбы, якім прызнана дыплом на паляўнічых спаборніцтвах. Маці Буяна — Леды ёсць дачкой Гардона і Тальмы — абое англійскія панцёры ад Лякса і Альбы, якія належалі да графа Патоцкага і якім прызнана залаты медаль на сабачай выстўцы.

Адным словам, да гэткай метрыкі ніякі расіст не прычэпіцца.

Адлажыў я метрыку і гляджу на шчаня, якога паходжанне пазнаў аж да дзеда і бабкі, а шчаня сядзіць і каля хваста зубамі ляскае.

— Што скажаш пра Буяна? — пытае сябра.

— Разумны сабака, ловіць блохі, якія метрык не маюць — адказваю.

Але сябра за гэта пакрыўдзіўся і ўжо не пачаставаў мяне другой чаркай.

Выбачайце, людцы добрыя, што я аб сабачых справах загаварыў, тады калі ў нас нашых чалавечых спраў хапае.

Як вам вядома, у нас чалавек без метрыкі жыць не можа. Без метрыкі ў школу не прымуць, да працы не прымуць, без метрыкі нават жонкі не дадуць.

Калі не дакажаш метрыкай, што нарадзіўся, тады людзі будуць так глядзець, быццам цябе бусел прынёс. Аддасі метрыку ў пашпартнае бюро, атрымаеш пашпарт. А ўсё роўна без метрыкі кроку не ступіш.

Чалавек раз народзіцца, а дзесяць паперак павінен мець, каб даказаць гэты факт. Дзеля таго ў нарадовых радах сядзяць тысячы людзей і копіі метрык выпісваюць.

Многія думаюць, што дзеці павінны мець метрыку. А калі дзіцё вырасце, тады метрыку аддае і пашпарт атрымоўвае. Але аказваецца, што пашпарту не вераць. Мо' таму, што там пра дзеда з бабай нічога не напісана?

З таго вынікае, што чалавек неважны, толькі метрыка, як гэта вышла ў майго сябра з Буянам.

## ПАСАДА СЫНУ

Атрымаў я ліст ад сябра.

«Даражэнькі Лявонь! Ты пішаш, што ў твайго сына пушок пад носам ужо сыплецца і хочаш уладзіць дзяцюка на нейкую працу, таму спяшаю з парадамі.

Назначай сынка ў мануфактурную краму. Калі нават ён у цябе неразумны — думае сумленна працаваць, то ўсё роўна застанецца яму мануфактуры на касцюм ды і табе на пару нагавіц пападзе.

Вядома, у мануфактурную краму без плячэй на працу не дастанешся.

Калі не ўдасца на такую пасаду ўслізнуцца, тады нядрэнна будзе прыладзіць сынка буфетчыкам. На гэтых пасадах пераважна жанчыны круцяцца, але і мужчына там можа нязгорш пасвіцца. Толькі што мужчыны ў буфеце вельмі хутка распіваюцца і калі сынок слабы ў глотцы, тады лепш назнач яго ў кандытарскую фабрыку. Як-ні-як, а заўсёды прынясе кусок масла, торбачку цукру, паўкілаграма какавы ці іншых цукерак.

Калі твайму сыну ад салодкага з душы верне, тады аддай дзіця ў мясную краму. Праца не цяжкая, а дома ў каструлі заўсёды кусочак мяса будзе.

Калі і гэта табе не да спадобы, у такім выпадку аддай сына ў пункт скупу ўтыльсыравіны.

Там заўсёды ёсць дэфіцытныя тавары для абмену. Людзі ўтыль здаюць, але не кожны тавар бярэ і таму ёсць вялікія магчымасці.

А яшчэ лепш будзе, калі прыладзіш сына на кулінарныя курсы. Кухарам стане і на ўсё жыццё ежай забяспечыць, а запрацаваныя грошы можа складаць ў ашчаднай касе.

Толькі, барані Божа, не дазваляй сыну заняць кіруючую пасаду — месца гэта нетрывалае і бездаходнае...»

Тут я адлажыў ліст і задумаўся. Кожны ў нас цягне, што даецца. Калі б на грамадскую ўласнасць людзі глядзелі, як на ўласную гаспадарку, тады зусім іншае жыццё было б.

А так выходзіць, што мы самі сябе абкрадаем, а да ўлад прэтэнзіі маем.

## ПАТРЫЁТ.

Паспрабуйце, паважаныя чытачы, зайсці на чужы панадворак, зараз жа з-за нейкага вугла сабака выскачыць і кінецца на вас.

Ані да гаспадара, ані да сабакі за гэта прэтэнзіі не можна аказаць, таму, што сабака з'яўляецца патрыётам сваёй будкі і чужога чалавека на панадворак не пускае.

Нават кот — валацуга і той свой дом ведае. У іншым месцы ён жыць не будзе, таму, што патрыятызм па свойму разумее.

Значыць, калі пачуццё патрыятызму не з'яўляецца чужым нават жывёле, то ў чалавека яно тым больш павінна быць. Толькі ў некаторых людзей гэтае пачуццё на другі бок вывернута.

Мой знаёмы дзесяць год служыў на фронце камунальнай гаспадаркі. Быў патрыётам сваёй установы, нягледзячы на цяжкасці ў гэтай гаспадарцы, дзе электрастанцыя дурасліва моргала, вадаправод часам пераставаў плакаць і іншыя непрыемнасці атрымліваліся.

Цяпер тэты камунальнік вызваліўся, не вытрымаў далей так жыць, і паставіў будку на Сенным рынку. Добра яму цяпер. Пільнуе сваю будку, як той цюцька. Кажа, што цяпер, у гэтай будцы, гарызонт яго пашырыўся. Афіцыйна зарабляе ён 4 тысячы, а неафіцыйны заробак не лічыцца.

Сваю пяцігодку выконвае ён выдатна і марыць аб тым, як бы хутчэй з будкі ва ўласную краму перайсці.

Аб перспектыўных планах ён кажа так:

— Калі міжнароднае становішча не зменіцца, то з адданасці да айчыны магчыма і гуртавы склад адкрыю.

Вядома, патрыятызм кожнага штурхае да дзейнасці, таму няма нічога здзіўляючага, што майму знаёмаму лепш і весялей жывецца.

## КАМІНАР

Першы раз убачыў я камінара праз акно. Стаяў ён на даху суседняга будынка і цягнуў з коміна вяроўку, бы рыбак лёску. Тады мне здавалася, што камінар займае самую высокую пасаду, бо ніхто для выконвання сваіх службовых абавязкаў не ўзнімаецца на такую вышыню (пра лётчыкаў тады я яшчэ не чуў).

Потым, калі я стаў хадзіць у школу, вельмі часта сустракаў камінараў на вуліцы. Маці казала, што гэта вялікае шчасце.

Аднак, калі (будучы ўжо дарослым) сустрэўся я з камінарам у трамваі, гэта сустрэча не прынесла мне шчасця. Увесь мой новы касцюм быў вымазаны сажай.

Вядома, нічога не парадзіш, камінары ў нас вельмі патрэбныя. Асабліва зімою. Наглытаецца печ сажы па самае горла і тады хоць канай, не распаліш у ёй. Толькі адзін камінар можа памагчы ў гэтай справе.

Прыдзе, абстукае печ малаточкам і зараз ведае, якую цэглу выняць, каб сажа пасыпалася.

Не камінар гэта, а печны доктар. Пасля яго аперацыі печ пачынае дыхаць поўнымі грудзьмі, а ён, скромны, ідзе да наступнага хворага.

Як паказвае жыццё, без таго ці іншага дырэктара людзі могуць жыць, але без камінара не абыдуцца.

Адно толькі здзіўляе, печы ў нас чысцяць дакладна, а вось некаторых устаноў няма каму прачысціць.

Сядзяць тыпы замазаныя брудам, наіўны выгляд твару робяць, вочы пад лоб закачваюць і абрабляюць свае справы.

Добра было б паслаць туды камінара. Ён бы абстукаў іх малаточкам і адразу ведаў бы, каго выцягнуць з наседжанага месца.

## ВЭЦІ

Нарабілі на свеце шуму з-за снежнага чалавека.

Усялякія навуковыя экспедыцыі па горах лазяць, дзе нават горная каза не заглядала. Навуковыя супрацоўнікі ганяюцца за Вэці, як за зайцам. Бывае, знойдуць след мядзведзя, падрабязна пад мікраскопам разгледзяць яго, а потым пішуць карэспандэнцыі аб тым, што натрапілі на сляды Вэці.

Расказваюць, што 30 год таму назад у Тыбецкіх горах быў злоўлены жывы Вэці, аброслы ад галавы да ног, разам з пупам. (Нічога ў гэтым дзіўнага, у горах то цырульняў няма).

Вэці не бываў у піўных, ні на кірмашах, ані ў гэесах на скупачных пунктах не паказваўся. Мабыць таму і не ўмеў гаварыць.

Гэты снежны чалавек, спаткаўшыся з цывілізацыяй, ужо не другі дзень памёр са здзіўлення.

Хоць Тыбет ад нас далёка, але Вэці можна знайсці і ў нас.

У нашай вёсцы, напрыклад, жыве Вэці. Валасамі аброс, ад людзей уцякае, севазваротам і культывізацыяй не цікавіцца. Адным словам, сапраўдны Вэці.

Наш Вэці сочыць толькі за сваімі ўласнымі справамі. Грамадскімі справамі ён не цікавіцца, на вясковых сходах не бывае і суседзям ніколі не дапамагае.

Наш Вэці разумова развіты дакладна так, як сапраўдны Вэці. Калі едзе шашою, не разумее, што карыстаецца грамадскай дарогай, а як толькі зверне на вясковую дарогу і падырдае па выбоях, дык уладу вылае за непарадкі дарожныя. Забывае, што сам ад грамадскіх абавязкаў выкручваецца.

Паглядзіце, людзі, вакол сябе. У вас таксама такія Вэці знойдуцца. Іх можна і без мікраскопа ўбачыць.

## ЛЯСНЫ КААПЕРАТЫЎ

Лясныя жыхары, даведаўшыся, што арганізуецца лясны кааператыў, адразу павесялелі.

На арганізацыйным сходзе, пасля вялікіх спрэчак старшынёй выбралі бусла, хоць праціўнікі гэтай кандыдатуры даказвалі, што для вялікіх кааператыўных спраў у яго за малая галава.

І вось прышоў дзень, калі дзверы кааператыва адчыніліся. Заячая капуста ўсміхалася да пакупнікаў, ажына і жалуды быццам прасіліся ў мяшочак, ячмень і проса прыцягвалі птушыныя позіркі. Нават на кааператыўным прылаўку часам паяўляліся кураняткі і рабчыкі; ад гэтага лісы мелі вялікую ўцеху (цяжкасці з мясам мелі месца і ў лясной гаспадарцы).

Зразумела, у кааператыве была таўкатня з раніцы да вечара. Нават сляпы крот, якому, як інваліду, прыслугоўвала права купляць без чаргі, не мог дапхнуцца да прылаўка.

Як у кожнай саліднай торгадзінцы, на дзвярах кааператыва паявіліся таблічкі: «Прыём тавару», «Вышаў у лясную кантору, хутка вярнуся», «Перапынак на абед», «Сёння выхадны» і г. д.

У час таргоўлі лясныя жыхары пераконваліся, што магазін стаіць на высокім узроўні.

За прылаўкам бусел чынна абслугоўваў пакупнікаў, вавёрка рупліва рухалася ў касе, а на сценах віселі аб'явы: «Не курыць», «Будзьце

ветлівы», «Купіўшы — адыходзь, дай іншаму купіць».

Невядома, як было б далей, але аднойчы лясныя жыхары ўбачылі на дзверах кааператыва запіску: «Перападлік».

Праз нядзелю папаўзлі чуткі, што ў кааператыве недахоп тавараў на суму з пяццю нулямі.

Птушкі чырыкалі па сакрэту, што бусел набыў чырвоныя саф'янавыя боты і белы фрак з чорнымі адвароткамі. І усё гэта дзеля рыжай касіршы вавёрачкі.

Праз месяц кааператыў адкрылі. За прылаўкам стаяў заяц у белым халаце, у касе сядзела сава ў акулярах, а пустыя паліцы прыкрываў лозунг: «Кааперацыя — гэта рацыяналізацыя».

Хуткі да гаворкі заяц расказаў, як бусел прадаваў яйкі вароны за галубячыя, а лясныя арэхі перасыпаў у дупло да вавёрачкі.

Гэтым часам вавёрачка пераняслася ў лясную кантору і ахутаўшыся рыжай шубкай, паранейшаму эфектна выкручвала хвастом і жмурыла вочкі, адчуваючы, што сам начальнік, шэры воўк, заглядаецца на яе.

Здзіўляцца звярынай гісторыі няма чаго. Шмат у нас вавёрачак, для якіх сыплюць грамадскія арэшкі малагаловыя буслы. Віноўнікі не паспяваюць зысці з лавы падсудных, а вавёрачкі ўжо перад іншымі хвасты распускаюць.

І ўявіце, мілыя чытачы, жывецца вавёрачкам прыпяваючы і ніхто да іх прэтэнзіі не мае.

## КАЗКА ПРА МЯДЗВЕДЗЯ

Прышла зіма пушыстая, а мядзведзь не паспеў знайсці сабе бярлогу.

Ходзіць Мішка па гурбах галодны, на кустах ягад не заўважае і думае, дзе б работу знайсці і да вясны пракарміцца.

Агорнуты адчаем, мядзведзь паплёўся ў лясное праўленне.

— Зрабіце ласку, — узмаліўся, — прыміце на сезонную працу, паратуйце: не мату я больш без працы швэндацца, кішкі не вытрымаюць марша.

Выслухалі ў праўленні мядзведзя, ды гавораць:

— Цяжкія цяпер часы, кампанія за эканомію ў поўным разгары, каштарысы абрэзаны, штаты абмежаваны, маем толькі заячую пасаду на здзельнай плаце.

Не было ў мядзведзя выйсця — згадзіўся.

Ну і пачалося.

Носіць мядзведзь калоды, пні карчуе, дровы рубае, словам — праца цяжкая, мядзвежая, а заработак — заячы.

Мядзвежая скура паабціралася (спецадзежа зайцам не належыцца), нават брызентавых рукавіц не выдалі.

Напісаў мядзведзь скаргу ў ахову працы. Так вось і так, раблю, як конь, а ем, як заяц, здароўе надрываваю, скуру працёр і г. д.

Прыехала ахова працы, паглядзела, задумалася і прыняла пастанову: выдаць для мядзведзя ахоўныя акуляры, каб цёгаючы пянькі не паппсаваў сабе вачэй.

Атрымаў мядзведзь акуляры з цёмнымі шкламі і далей нездаволены. Піша скаргу ў лясны цэнтр. Так вось і так, калі не паможаце, мухамораў наемся і лапы выцягну.

Прыехаў інспектар — дзік, жалудоў наеўся і хрукае:

— Чым нездаволены?

Стаў мядзведзь перад яснымі вачыма інспектара і кажа:

— Змілуйцеся, на заячай пасадзе я засыхаю, а працую па мядзвежым сумленні.

— А ты па-заячаму працуй. Бяры прыклад з зайцоў. Яны сядзяць на мядзвежай зарплаце і скаргаў не пішуць, — адказаў вяпрук і пачаў пісаць службовую запіску. Так вось і так, мядзведзь кляўзнік, зводнік, гультай, па п'янаму лапы пакалечыў, даць яму вымову з папярэджаннем.

Чытачы могуць сказаць: цікавая гісторыя, а маралі няма.

Грамадзяне ласкавыя! Дык ці ж мала ў нас людзей не на сваіх месцах? А ці няма такіх, што за іншых працуюць? І інспектараў-дзікаў у нас хапае. Так што, людзі добрыя, большай маралі не дашукоўвайцеся.

## КАЗКА ПРА БАРАНА

Было гэта вельмі даўно, калі не існавалі на свеце бюракраты, чэргі і іншыя непатрэбныя рэчы. Тады людзі не былі залежнымі ад начальнікаў забеспячэння, самі шылі адзежу па сваім размеры, без камунальнага аддзела пасяляліся ў пячорах, мэблі з растэрміноўкай плацежу не куплялі, а агонь крэмнем хутчэй, чым мы сучаснымі запалкамі распальвалі.

Менавіта ў той час сустрэліся пры кладцы баран і цяля. Маладосць заўсёды ўпартая і самаўпэўнена. Таму цяля нізавошта не хацела ўступіць дарогу старому барану. Атрымалася, як у нашых аўтобусах і цягніках, дзе моладзь не ўступіць месца старэйшым.

Баран упёрся моцным ілбом у цяля і яно страціўшы раўнавагу, упала ў ваду. У гэтым няма нічога дзіўнага, у наш час і дарослыя быкі часта трацяць раўнавагу.

Кожны мае свой шчаслівы дзень. Рэчка аказалася неглыбокай, цяля не ўтапілася, вышла на бераг і, распускаючы ад плачу сліну, пабегла да сваёй мамы са скаргай (тады яшчэ не было аддзела скаргаў).

Карова выслухала цяля, ветліва палізала яго, памахала рагамі і, маючы доўгі язык, усім звярам расказала пра хуліганства барана.

Праз дзень лес гудзеў аб гэтай падзеі. Чутка аб ёй дашла і да самага дыктатара — льва.

Леў зацікавіўся выпадкам. Паклікаў ён барана, агледзеў яго спераду і ззаду і, звяртаючыся да свайго міністра — мядзведзя, сказаў:

— Упартасць гэтага барана — дадатняя рыса. Апроч таго, здаецца, гэта моцная жывёліна. Бач, як рогі за вушы загнуў. Вазьмі яго да сябе на сакратара.

Не было тады начальніка кадраў, таму правільнасць меркавання льва аб баране не было каму спраўдзіць і баран стаў сакратаром мядзведзя.

Адгэтуль скаргі спыніліся. Мядзведзь па сваёй натуры гультаяваты не разабраўся ў чым справа і самаздаволена думаў: «Відавочна лясныя жыхары здаволены маімі мядзвежымі парадкамі». І зразумела, нацешыцца не мог бараном, які так аддана вядзе яго справы.

А ў сапраўднасці баран па прычыне сваёй упартасці проста не дапускаў звяроў са скаргамі да мядзведзя.

Карацей кажучы, гэта быў класічны прыклад адарванасці кіраўніцтва ад мас.

Таму не здзіўляйцеся, дарагія чытачы, калі ў якой-небудзь установе выпадкова сустрэнецеся з бараном. Напэўна ён там яшчэ ад старых часоў застаўся.

## П'ЯНЫЯ СПРАВЫ

Сход праходзіў бурна. У зале, перапоўненай як трамвай, нельга было дабіцца толку. Некалькі галасоў у адзін момант крычала разам, а рэшта прысутных уторыла ім нейкім шумам падобным да рокату мора.

— Наша прамысловасць найбольш зарабляе на гарэлцы, а хто купляе гарэлку як не мы? — крычаў нехта прарэзлівым голасам. Натоўп падтрымаў яго новым гулам.

— На кожную пляшку з гарэлкай дабрадзейныя наклейваюць маркі на пабудову школ — значыцца мы з'яўляемся носьбітамі навукі і культуры! — гучэў нехта басам як з бочкі.

— А хто найбольш штрафаў плаціць як не мы; з нас гарадскі бюджэт мае найбольш карысці! — прабіўся скрозь шум жаночы голас.

— Несправядлівасць усюды! Вось вяртаецца чалавек закапаны і нагамі крэндзелі выкручвае, то на дарозе наставілі стаўбоў...

Не дакончыў. Хтосьці насунуў яму на вочы шапку.

Маленькі старшыня, з вялізным чырвоным носам, які выразна паказваў на яго схільнасці, залез на стол, акінуў залу позіркам сваіх шкляных вачэй і гукнуў, заклікаючы да цішыні:

— Паўтона ніжэй, вітаміны саракаградусныя! У нашым грамадстве п'янства іграе вялікую ролю. Без гарэлкі жыццё — не жыццё. Апа-

ражняем па тры літры на галаву кожнага жыхара, яшчэ крыху лепш пастараемся і п'янства ўвойдзе ў гісторыю народа!

Відаць словы гэтыя спадабаліся прысутным. У зале стала так ціха, што чуваць было б, калі б муха закашляла.

Старшыня гаварыў далей:

— Адносяцца да нас дрэнна! Несправядліва! Выдумалі нейкую «гасцініцу» для п'яных і бяруць па 90 зл. за адну ноч, а цвярозыя ў гасцініцах плацяць толькі па 30 зл.

У зале грукнулі апладысменты, а калі прыціхлі, старшыня працягваў:

— Пляшка гарэлкі яднае людзей, а яе змест прабуджае таленты. Паглядзіце на гэтую сцяну, вось вісяць карціны сучасных мастакоў. Гэтае мастацтва называецца абстракцыянізмам, суперрэалізмам і іншымі словамі, якія нават цяжка вымавіць п'яным языком. Як па-вашаму, хто гэта рысаваў?

— Наша братва!.. Залітыя ў костачку!.. Пацвярозаму так не нарысуеш! — пачуліся галасы.

— А цяпер, заспіртаваныя бацылы, паслухайце сучасную музыку, што скажаце аб кампазітарах? — сказаў старшыня і ўключыў магнетафон.

Зала напоўнілася дзікімі зыкамі.

Крыкі прысутных заглушылі музыку:

— Нашы, нашы!

— Пазнаем!

— Здорава налізаліся!

— Іграюць п'яныя ў дым!

— Правільна акрэслілі! Нашыя гэта таленты!

Старшыня на хвіліну зрабіў перарыў, і тут нехта крыкнуў:

— Таварышы завеяныя, да нас прымазаўся цвярозы шпіён!

Усе галавы накіраваліся на мяне. Хваля гневу павісла ў паветры. Перакрыўленыя твары наблізіліся. Хтосьці схапіў мяне за глотку, пачаў душыць і я... прачнуўся.

З радыёпрыёмніка плыла сучасная музыка, прамень сонца падаў на старонку часопіса з рэпрадукцыяй карціны сучаснага мастака і я проста здзівіўся. Як часта сны бываюць зусім падобныя на рэчаіснасць.

## ДАСТАТАК

Здарылася нейк, што чалавека беднага, які ледзь-ледзь канец з канцом звязваў, начальнікам млына паставілі.

З таго часу і пачалася гісторыя.

Кола млына круціцца памалу, а жыццё гэтага чалавека пачало круціцца хутчэй чым аўтамабільнае кола.

Выявілася, што пыл мукі спрыяльна дзейнічае на чалавека. За кароткі час у хаце млынара дабрабыт настаў. Жонка яго стала хадзіць у хатніх туфельках з трусінымі пушынкамі, дзеці перасталі быць саплівымі, а сам млынар зранку да вечара ходзіць вясёлы і гарэлкай ад яго цягне.

Адным словам — млынар заняў пазіцыю ў жыцці. Нават Фроська, якая збірае бутэлькі ў нашай вёсцы, пачала нізенька кланяцца млынару, як галоўнаму дастаўшчыку пустых бутэлек, чаго раней не было.

І незнаёмыя пачалі заходзіць у госці да млынара. Адзін свежую рыбку прынясе, другі — скрынку мёду, трэці — пеўня. Усе яны хочуць, каб як мага танней муку купіць.

Гавару я неяк гэтаму млынару:

— Не магу я зразумець, як гэта мука можа ўзняць дух чалавека? Ёсць жа норма на выхад мукі!

Млынар закурыў і кажа:

— Норма — нормай, а галава — галавой. Людзі норму ўстанаўляюць і людзі норму абмінаюць. Калі з памолу выдаць больш вотруб'я, то вядома, жменька мукі застанецца.

— Тады пры разліку вотруб'я не хопіць, — заўважыў я.

— Ад гэтага мятла ёсць, — тлумачыць млынар. — Мятлою да ўсіх закамаркаў дастану і што змяту, да вагі дапаўняю, каб з нормай было ўсё ў парадку.

— Не разбіраюся я ў гэтых тонкасцях, сам чорт тут ногу зломіць, — прызнаўся я.

Млынар смяецца і гаворыць:

— У тым і справа, што людзі не ва ўсім разбіраюцца, інакш жыццё было б вельмі сумнае.

«Як тая мука з млынарскага рукава» — падумаў я.

Адзін на муцэ, іншы на мясе, яшчэ іншы на бурачках будуе сваё шчасце за кошт тых, якія ні ў чым не разбіраюцца.

## АСЕННЯЕ ЛІСЦЕ

Калі падае перад намі асенні ліст, гэта не толькі візітная картачка дзеда Мароза. Асенні ліст з'яўляецца таксама лістам плаксівай Восені, у якім гэтая пазалочаная баранэса пытае:

— Ну, як там з вугальком і дровамі? Ці бульбачку і ўсялякую іншую пятрушку знеслі ўжо ў пограб? Вокны ў хаце заканапацілі?

Зрэшты, не толькі чалавека трывожыць асенняе лісце. Напрыклад упадзе перад каровай жоўты ліст і яна тут жа схіляецца над ім, быццам бы хацела прачытаць, што на ім напісана. Потым дзьмухне на яго, аж ліст падскочыць, і ляснуўшы сябе хвастом па баках, падніме голаў і скоса, бліскучым вокам, пазірае на хлеў. Хоча спраўдзіць, ці дах падрамантаваны і колькі сена на сенавале прыпасена.

Ды што там карова! Дурная курыца, якая сваіх яек не ўмее злічыць і то, убачыўшы пафарбаваны ліст, клюе яго. Праб'е дзірку як кандуктар у білеце, растапырыць крылы і бяжыць да кучы гною.

Ёй здаецца, што тут затрымалася цеплыня гарачых летніх дзён. І яна грабе гной, дабіраючыся бліжэй да гэтай цеплыні.

Нават бестурботная дзетвара асенніх дзён не любіць. У рэчцы купацца нельга, па лясных ягадках толькі ўспаміны засталіся, а на канькі яшчэ за рана. Вось і няма прычыны дзецям захапляцца восенню.

Вясковая гандлёвая сетка таксама штогод спатыкае асенняе лісце з вялікім нездавальненнем.

Было ўсё спакойна і ўрачыста, бы ў царкве, а раптам пачало лісце падаць і людзі дакучаць сталі. Захацелася ім ваўняных свіцераў, цёплай бялізны і іншых глупстваў. Не маглі яны панакупляць усяго гэтага ў мінулым годзе?

Толькі запаслівая вёрткая вавёрка не звяртае ўвагі на асенняе лісце. Кажушак у яе цёплы, з праўдзівага мяха, а і ў дупле падрыхтаваны запас арэхаў немалы. Вавёрачка высуне з дупла чорны носік, паўзіраецца на астрыжаны лес і думае: «Мяне Восень-матухна не застане ў разгубленасці».

Аднак дзівавацца вавёрцы няма чаго. У нас ёсць і дзяўчаты такія руплівыя як вавёркі. Яны і карыстаюцца ў хлопцаў поспехам, асабліва восенню, калі вяселлі кружацца па вёсках, як асенняе лісце.

## МАЕ ПРЭТЭНЗІІ ДА АНЁЛА-СТОРАЖА

Калі я нарадзіўся, анёл-стораж адразу заняў сваё месца ў галаве ложка.

Так гаварылі мне бацькі.

Я маю поўныя падставы быць нездаволеным сваім анёлам-сторажам. Мабыць мне нейкі лодыр трапіўся. Як жа інакш зразумець тое, што здарылася ў маім жыцці?

Няхай хто з вас скажа мне, дзе быў мой анёл - стораж у той час, як бацька, перакуліўшы на калена, хлястаў мяне па мяккім месцы, з асалодай прымаўляючы:

— Нарабіў бяды, цярпі сынок, гэта табе ў галаву пойдзе.

А чаму мой анёл-стораж не адцягнуў мяне за вушы ад жаніцьбы?

Чаму пасля выпіўкі не мой апякун праводзіць мяне дамоў, толькі міліцыянер на пастарунак цягне?

А як вярнуся дахаты, жонка гаршкамі закідвае мяне. Чаму ён тады не праляціць побач?

Дык вось, дарагія мае, прэтэнзіі мае слушныя. Калі б мой анёл-стораж добрасумленна выконваў свае абавязкі, дык я б чхаў з канцэртам на ўсе справы і не пісаў бы фельетонаў.

## Дзядзька Лявонь

Хто ён? Самы папулярны чалавек на Беласточчыне. А гэта ўжо нешта значыць. Чалавек ён як кожны іншы, жыве і працуе, нічым асаблівым не выдзяляецца, хіба толькі тым, што ў вольныя хвіліны піша ў «Ніву» фельетоны. Гэта яго адзіная слабасць.

Ды і ўзнікла яна нечакана.

Пачуўшы аб нарадзінах «Нівы», Дзядзька так усхваляваўся, што па гэтай прычыне пастанавіў напісаць у рэдакцыю фельетон. І чаму менавіта фельетон? Чаму, напрыклад, не прачулены верш? Гэтага і сам Дзядзька не ведае.

Пастанова аказалася фатальнай. Фельетон «Ніва» надрукавала, ну і, як кажа Дзядзька, з гэтага часу пачалася гісторыя. Фельетоны Дзядзькі Лявaня пачалі з'яўляцца ў кожным нумары «Нівы» і стаў ён яе неадлучным сатэлітам.

За заслугі у нястомнай барацьбе з усялякімі праявамі грамадскага зла, ГП БГКТ пастанавіла ўзнагародзіць Дзядзьку яго ўласнымі фельетонамі.

Так паўстаў гэты зборнік.

## ЗМЕСТ

Праект вокладкі Т. БЭЙНАРОВІЧ-КАВЯЗО

Zbiorek felietonów „Dziadźka Lawoń" wydany przez Białoruskie Towarzystwo Społeczno - Kulturalne w Białymstoku. Nakład 3000 egz. Ark. wyd. 4,8, ark. druk. 5. Papier pism. V kl. 70 g. Rękopis oddano do składania 29. XII. 61 r. Podpisano do druku 20. I. 61 r. Druk ukończono w styczniu 1961 r.

Biał. Zakł. Graf. Białystok, Malmeda 1. Zam. 3665. B-l.